

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 44 (631)** **26 ЛІСТАПАДА 2003 г.**

## 27 лістапада 1920 года пачаўся Слуцкі збройны чын




*Пра Слуцкі збройны чын чытайце на ст. 3-4.*

Адміністрацыя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь



Администрация Президента Республики Беларусь

220016 г. Мінск, рэзідэнцыя Прэзідэнта, тэл. 222-37-51, факс 226-06-10 E-mail: contact@president.gov.by

220016 г. Минск, резиденция Президента, тел. 222-37-51, факс 226-06-10 E-mail: contact@president.gov.by

**Старшыні Грамадскага аб'яднання**
**"Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"**
**Трусаву А. А.**

**Паважаны Алег Анатальевіч!**

Мы ўдзячныя Вам за пільную ўвагу да стану і перспектыў развіцця беларускай мовы ў нашай дзяржаве.

Новы тэлевізійны канал "Лад" адной з галоўных задач бачыць менавіта захаванне лепшых культурных і моўных традыцый нашага народа. Дзеля гэтага шэраг тэлевізійных праграм: "Наша спадчына", "Спявай, душа!", "Імгненні вечнасці" выходзяць у эфір на беларускай мове. На беларускую мову пераводзяцца таксама кіна- і мультыплікацыйныя фільмы, якія набыты ў "Міжнароднага французскага канала". На мове нашых продкаў выходзяць у эфір і выпускі "Навін" у 20.00 на тэлеканале "Лад".

Вядучым праграм, якія працуюць у прамым эфіры, пастаўлена задача: адказваць на тэлефанаванні гледачоў на той мове, на якой зададзена пытанне. Такім чынам, тут шмат што залежыць ад аўдыторыі тэлеканала.

Канал толькі пачаў сваю работу, таму можна спадзявацца на з'яўленне новых праектаў, скіраваных на захаванне нашых лепшых культурных і моўных традыцый. І менавіта каардынацыя працы дзяржаўных органаў і грамадскіх аб'яднанняў дазволіць рэалізаваць моўную палітыку ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам і на карысць беларускага грамадства.

**Памочнік Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь-**
**Начальнік галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення**
**Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь М. М. Шаўцоў.**

## Помнік Міколу Ермаловічу



Урачыстае адкрыццё помніка вялікаму беларускаму гісторыку, стваральніку беларускай канцэпцыі гісторыі Вялікага Княства Літоўскага **Міколу Ермаловічу** абвешчана на 15.00 28 лістапада 2003 года ў **Маладэчне** на рагу вуліц Віленскай і Валынца.

*(Рэпартаж пра ўстаноўку помніка гл. на ст. 4.)*

## Дзень добры! Паважаная рэдакцыя газеты "Наша слова".

Пішу Вам Яўгенія Багданава з Гомеля.

Калі атрымала Вашу газету – вельмі ўзрадавалася, бо зразумела, што беларусы яшчэ жывыя, і што нас (беларусаў) вельмі шмат. Як прыемна, што беларускую мову можна чуць не толькі ў касцёле і на ўроках беларускай мовы і літаратуры ў школе, а яшчэ і чытаць на ёй цудоўную газету. Гэта, "Наша слова" сапраўды наша, роднае – з роднай "Пагоняй", і родным бел-чырвона-белым сцягам.

Так добра, што мы не забыліся на нашы адвечныя звычаі, святы, на нашу мову. Калі не застанецца іх, хто будзем мы? Хто заўгодна, але ўжо не беларусы.

Але жыве Беларусь! І гэта па ўсім відаць. І так прыемна адчуваць, што ты жывеш на Беларусі, у сваёй роднай краіне. Сёння раніцай я напісала верш. Ён пра каханне. Я дасылаю яго Вам.

*Аб кім сумуеш ты, дзяўчына?!*
*Пахмурным ранкам на пакосе.*
*Аб тым, хто для цябе адзіны,*
*Аб сыне карчмара Антосі?*

*Аб кім сумуеш, ты дзяўчына?*
*Калі з касцёла звон ліецца,*
*Аб дудары вясковым Янку,*
*Што так залівіста смяецца?!*

*Не, бацьку, не аб тым сумую,*
*І справа ўжо тут не ў каханні...*
*Пабегла. Жнейку маладую,*
*Знайшлі у рэчцы на змярканні.*

Вось такія ў мяне вершыкі. Дзякуй Вам за тое, што Вы падтрымліваеце беларушчыну ў нашай краіне, і за тое, што Вы дапамагаеце беларусам адчуваць сябе беларусамі.

*З павагай да Вас,*
*Багданава Яўгенія.*

P. S. **Жыве Беларусь!**

## *Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, "Наша слова"!*

**Сябры, не забудзьце пра падпіску.**

Дзякуючы вашай падтрымцы, ТБМ захавала дзве сваіх газеты і зараз іх стан стаў больш трывалым і стабільным. Напрыклад, мы плануем рэгулярна выдаваць у наступным годзе "Новы час" (два разы на месяц) і давесці аб'ём штотыднёвіка "Наша слова" да 12 старонак, а наклад да 5000 асобнікаў.

Аднак мы вельмі зацікаўлены ў сталых падпісчыках на нашыя газеты. Таму, сябры, не лянуйцеся, падпішыцеся адразу на паўгады на абедзьве газеты ТБМ. Калі ў вас ёсць фінансавая магчымасць, выпішыце нашыя газеты ў бліжэйшую школу, бібліятэку альбо музей. Няма грошай на паўгады, зрабіце падпіску на квартал, альбо месяц, і вы будзеце ведаць пра жыццё ТБМ. Да сустрэчы ў наступным годзе на старонках нашых выданняў.

**Старшыня ТБМ Алег Трусаў.**

Ф. СП - 1

Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

На 2003 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

ПВ | месца | літар — на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

Кошт: падпіскі **3750** руб. / пераадрасоўкі руб. Колькасць камплектаў **1**

На 2003 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)



№ 44 (631) 26 ЛІСТАПАДА 2003 г. наша слова

# ПРА СЛОВА "ДЗЯКУЙ"

Гэтыя нататкі выкліканы нядаўняй публікацыяй Эрнеста Ялугіна "А можа, прыслухаемся да Скарыны?" (Наша слова. 5.XI. 2003). Пры ўсёй пашане да вядомага пісьменніка мушу ўсё ж сказаць, што ў ягоным артыкуле занадта многа недакладнасцяў, а катэгарычнасць яго сцвярджэнняў рызыкоўная. Ён спрабуе аспрэчыць выказванні супрацоўніка радыё "Свабода" наконт слова **"дзякуй"**. Дарэчы, свае, так бы мовіць, не зусім прымальныя адносіны да гэтага слова ён выяўляў і раней. Э. Ялугін, былы рэдактар газеты "Наша слова", у гутарцы з супрацоўнікам "Роднага слова" (1996, № 11, с. 202) рэкамендуе выказваць сваю ўдзячнасць толькі словам **"дзякую"**, а не **"з дапамогай загаднай формы дзеяслова – дзякуй"**, бо гэтае **дзякуй** – *"нонсэнс, надарэчнасць, якая ўзнікла пад уплывам рускамоўя"*.

А народ наш здавёндаўна, не ведаючы гэтых рэкамендацый, ужываў і ўжывае і **дзякую**, і (найчасцей) **дзякуй**, замацаваў менавіта апошняе ў фразеалагізмах **дзякуй у шапку, за дзякуй, дзякуй богу, дзякуй за ласку** ды ў шматлікіх прыказках. Вось толькі некаторыя з іх: **"За дзякуй пірага не купіш"**, **"Не кажы дзякуй, калі цябе не частуюць"**, **"Дзякуй не дзякуй, а заплаціць мусіш"**, **"Дзякуй не з'ясі"**, **"Дзякуй гэтаму дому, пойдзем к другому"**, **"Дзякуй гэтаму столу, а мы пойдзем дадому"**.

***Дзякуй*** – гэта не "загадная форма дзеяслова", як лічыць Э. Ялугін, а двухзначнае слова, якое ў адных выпадках выступае як часціца *("Дзякуй за хлеб-соль")*, а ў другіх – як нескланяльны назоўнік у значэнні *"падзяка, удзячнасць"*. Дарэчы, у "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (т.2, с.179), дзе пададзены абодва гэтыя значэнні, пра апісанні другога, назоўнікавага, значэння ёсць граматычная памета **"н."** *(ніякі род)*. Але, як паказвае маўленчая практыка, **дзякуй**, ужываючыся ў значэнні назоўніка, выкарыстоўваецца, бадай, з аднолькавай частотнасцю то ў ніякім, то ў мужчынскім родзе. Вось некалькі прыкладаў: **"Дзякуй, вялікі дзякуй"** *(А. Вярцінскі)*, **"вялікі табе дзякуй"** *(А. Бачыла)*, **"даўшы адпаведны дзякуй"** *(І. Чыгрынаў)*, **"сардэчны дзякуй"** *(Я. Скрыган)*, **"вялікі вам дзякуй"** *(Я. Колас)*; **"вялікае дзякуй"** *(ЛіМ)*, **"дзякуй шчырае пачуеш"** *(М.Чарот)*, **"вялікае дзякуй нашым шэфам"** *(Настаўн. газ.)*, **"шчырае, сардэчнае дзякуй"** *(Я. Скрыган)*, **"народнае дзякуй"** *(П. Броўка)*. Праўда, у апошняе дзесяцігоддзе амаль ва ўсіх выпадках прыметнікі і займеннікі дапасуюцца да слова **дзякуй** у мужчынскім родзе: **"мой дзякуй"** (Р. Барадулін).

У згаданай напачтку публікацыі Э.Ялугін піша, што *"расейскае "спасибо" распаўсюдзілася ў асноўным у савецкі час"* і што *"ў савецкі ж час распаўсюдзіўся і беларускі аналаг – загадная форма дзеяслова "дзякаваць" у якасці назоўніка"*. Але, па-першае, няма ніякіх падстаў звязваць з савецкім часам распасюджанне рускага слова *"спасибо"*.

У рускіх акадэмічных слоўніках яно ілюструецца прыкладамі-цытатамі з твораў Пушкіна, Гогаля, Ганчарова і іншых аўтараў XIX стагоддзя, а таксама і пазнейшага перыяду. Існавала гэтае слова і ў папярэднія стагоддзі – да Пушкіна.

Па-другое. Наша **"дзякуй"** сфармавалася не ў савецкі час. Яно фіксуецца ў вядомым слоўніку І.І. Насовіча (1870), запісанае складальнікам непасрэдна з жывой народнай мовы. Яно фігуруе ў шэрагу пералічаных вышэй народных прыказак, а яны ўзніклі, зразумела, не ў савецкі перыяд. Яно выступае кампанентам некалькіх раней названых фразеалагізмаў, сярод іх – **дзякуй богу**. Гэты выраз выкарысталі ў сваіх творах В. Дунін-Марцінкевіч – у "Шчароўскіх дажынках" *("Дзякуй богу, што ўжо ачуняла")* і ў "Пінскай шляхце" *("Відна, відна, - дзякуй богу!")*, Ф. Багушэвіч – двойчы ў паэме "Кепска будзе" *("Дзякуй богу, добры ўдаўся", "Надта есці стаў памногу і паправіўсь, дзякуй богу")*. Ужывалася гэтае слова (як часціца) у іншых дасавецкіх творах: *"Дзякуй, дзякуй, ягамосці, за весці такія!"* (Ф. Багушэвіч), *"А за гэта дзякуй!"* (Цётка).

Па-трэцяе, ніяк нельга гаварыць, што наша **"дзякуй"** склалася пад уплывам і па аналогіі з рускім **"спасибо"** (з *"спаси Бог"*) і з'яўляецца "загаднай формай дзеяслова *"дзякаваць" у якасці назоўніка"*. У далейшых разважаннях Э. Ялугіна зашмат блытаніны. Ён звязвае ўзнікненне **дзякуй** то з назоўнікамі **дзяка**, **дзякло**, то з дзеясловам **дзякаваць**.

***Дзяка***, як засведчана ў тлумачальным, гістарычным і этымалагічным слоўніках беларускай мовы, абазначала і абазначае (фіксуецца ў ТСБМ) **"падзяка, удзячнасць"**, г.зн. тое самае, што і **дзякуй** у значэнні назоўніка. А паводле Э. Ялугіна, **дзяка** – *"гэта самы пачэсны падарунак, знак асаблівай павагі да чалавека – хлебам"*. Што да назоўніка **дзякло**, дык ён даецца ў "Гістарычным слоўніку беларускай мовы" (выпуск 9, с.135) са значэннямі *"падатак збожжам"* і *"мера збожжавага падатку"* і, як бачым, гэтак жа, як, скажам, і **дзяк**, не мае ні этымалагічнай, ні сэнсавай сувязі са словамі **дзяка**, **дзякуй**. ***Дзякло*** – гэта, паводле А.М. Булыкі, запазычанне з літоўскай мовы.

Пад канец свайго артыкула Э. Ялугін ледзь не сенсацыйна аб'яўляе: *"Цяпер назаву імя таго, хто яшчэ дакладна ведаў сэнс гэтага слова (**"дзякуй"**) і ўжываў яго ў сваіх творах на пачатку ХУІ стагоддзя. Маю на ўвазе вялікага беларуса Францішка Скарыну"*. Аднак далей прыводзяцца тры цытаты са Скарынавых перакладных твораў, але ва ўсіх цытатах замест чаканага **"дзякуй"** знаходзім дзяслоў: **"дякуеть"**, **"дяковал"**, **"дяковал"**. Затым гаворыцца, што *"не складана прывесці і яшчэ пераканаўчыя прыклады з твораў самых аўтарытэтных беларускіх майстроў літаратуры самых розных пакаленняў, у тым ліку дасавецкага Янкі Купалы, але, мяркую, дастаткова аўтарытэту Скарыны"*. Шкада, што Э. Ялугін не заглянуў у "Слоўнік мовы Янкі Купалы" (т. 2, с. 52). Тут паказана, што Я. Купала 47 разоў выкарыстаў **дзякуй** у сваіх творах у значэнні як часціцы, так і назоўніка. І ёсць прыклады з Купалавай дасавецкай творчасці, сярод іх і такі: *"Пашлём **дзякуй** "Нашай долі", родненькай газеце"*.

Як сведчаць "Этымалагічны слоўнік беларускай мовы" (т. 3, с. 137) і манаграфія А.М.Булыкі "Даўнія запазычанні беларускай мовы" (с.104), словы **дзяка** і **дзякаваць** прыйшлі ў нашу мову з польскай, назоўнік **дзяка** ў польскай мове ***(dzieka)*** падходзіць ад нямецкіх **dank, danken**. Беларускае ж **дзякуй** (ў такой форме не фіксуецца ў іншых мовах) утварылася на базе назоўніка **дзяка**. Дарэчы, у слоўніку І.І.Насовіча (с.136) фіксуюцца з тоесным значэннем **дзякі, дзяку, дзякуй.**

***Іван Лепешаў, прафесар, доктар філалаг. навук.***

# НОВАЕ, ЯК ЗАБЫТАЕ СТАРОЕ

Ёсць такі крылаты выраз, які цяпер ператварыўся ў звычайную прыказку: "Усё новае – гэта добра забытае старое". Яго ўжываюць, як ацэнку чаго-небудзь нібыта новага, якое насамрэч ужо раней было, адбывалася, бачылася, чулася, гаварылася і г. д. Напрыклад, у Р. Барадуліна чытаем: *"Кажуць, што ўсё новае – гэта добра забытае старое. Таму і забываецца, пэўна, стараецца быць забытым, каб яго ўспаміналі, шукалі, тым самым не гублялі майстэрства, вечнасць ісціны"*. А прыйшоў гэты выраз да нас ад французаў. Лічыцца, што ўпершыню нібыта так сказала мадэмуазэль Бертэн, мадыстка Марыі Антуанеты, паднавіўшы старую сукенку каралевы. Магчыма, у французскай мове гэты афарызм склаўся пад уплывам біблейскага тэксту (Эклезіяст, 1, 10): *"Бывае нешта, аб чым кажуць: "Глядзі, вось гэта новае", але **г э т а** было ўжо ў вяках, якія былі да нас"*

Прыгадаўся мне гэты выраз, калі нядаўна ў "Народнай волі" (29.X.2003) прачытаў: "Я адчуваю, як новая, будучая Беларусь пакрыёма, але няўхільна набірае моцы". Можна падумаць, што тут ***пакрыёма*** – новае слова, якога няма ў нашых акадэмічных слоўніках. Але яно "добра забытае старое". Яго ў свой час выкарыстаў Я. Купала ў паэме "Курган" (1910): *"Толькі модлы раслі небу ў сэрцах людзей і праклянцце расло пакрыёма"*. Ужываў яго і В. Ластоўскі: *"Забарона літоўскага друку прымусіла ліцьвінаў вучыцца граматы пакрыёма, па хатах"*. А паходзіць гэта слова з польскага спалучэння ***po kryjomu*** і абазначае *"ўпотай, непрыкметна для іншых"*. Можна гаварыць, што яно зноў пачало актыўна ўжывацца ў літаратурнай мове і варта таго, каб трапіць у нарматыўныя слоўнікі. Вось толькі некалькі прыкладаў з перыёдыкі апошніх гадоў: *"Ні ў форме палкоўнік, ні ў штацкім маёр мяне на кручку не трымаў пакрыёма. І хоць у пакутах сумленне маё – мне ніцая радасць раба незнаёма"* (Н. Гілевіч); *"Бацька не ганяў мяне памагаць яму ў гаспадарскіх клопатах, сам рэзаў сечку карове, насіў з далёкага гумна сена авечкам, парыў бульбу свінням і пакрыёма шаўцаваў"* (С. Яновіч); *"Бурбоны баяцца, што двайнікі могуць дапамагчы Напалеону пакрыёма пакінуць востраў"* (У. Арлоў); *"Сышлі пакрыёма і здранцвенне, і холад магільны ад сонца, цяпла, ад бадзёрага плёскату вёслаў..."* (А. Мінкін). На аснове прыслоўя ўтварыўся ўжо ўласна беларускі прыметнік **"пакрыёмны"**: *"Павылазілі на свет сціжмы слухачоў, віжоў і даказчыкаў, што на вуліцах і ў дамах размовы ціхія падслухоўвалі і ў твары людскія пільна ўглядаліся, пакрыёмныя думкі ў злачынствы прыдумляючы"* (У. Арлоў).

Двойчы сустрэўся ў сучасным перыядычным друку назоўнік **"перакінчык"**, якім называюць таго, хто перакінуўся на бок супраціўніка, стаў яго прыхільнікам ці хаўруснікам. І гэта слова не новае, а забытае старое. У 1993 годзе зноў пабачылі свет публіцыстычныя артыкулы Я. Купалы, якія ў савецкі час былі пад забаронай. У артыкуле "А ўсё ж такі мы жывём!.." (1914) паэт пісаў пра вялікадзяржаўнікаў *"паноў саланевічаў і таму падобных"*: *"Для перакінчыкаў законы жыцця і праўды-справядлівасці ў рахунак не ідуць"*. Часам у друку лічаць гэтае слова наватворам Янкі Купалы. Але гэта не так. Яшчэ раней, у 1911 годзе. В. Ластоўскі пісаў: *"...бадай толькі адны перакінчыкі-беларусы крыва глядзелі на беларушчыну"*. Неаднойчы ўжыў гэтае слова Я. Лёсік: *"Найгоршымі ворагамі нашага руху ёсць беларусы-перакінчыкі, атрымаўшыя выхаванне расійскае ці польскае"*. Відаць, гэты назоўнік варты ўвагі лексікографаў, тым больш што ён ніколькі не страціў сваёй актуальнасці. А паходзіць ён з украінскай мовы (**"перекинчик"**), дзе фіксуецца ў слоўніках як звычайнае нарматыўнае слова, праўда, з паметай "размоўнае".

У акадэмічных беларускіх слоўніках паясняльны злучнік **"то-бок"** (яго сэнс – **"гэта значыць"**) падаецца з паметай "устарэлы", але такая памета не зусім апраўданая: злучнік сустракаецца, напрыклад, у хрэстаматыйнай байцы К. Крапівы "Сямейная спрэчка", у яго камедыі "Мілы чалавек", у шэрагу іншых твораў, у тым ліку сучасных. Вось некалькі прыкладаў, якія сведчаць, што гэты злучнік – жывая з'ява сучаснай літаратурнай мовы: *"Вялюгін праводзіў паралелі паміж прозай Быкава і тымі заганнымі ідэямі, што нам навязваюць з Мюнхена, **то-бок** радыё "Свабода"* (В. Быкаў); *"Ты ручаешся сваім партыйным сумленнем за гэтага чалавека? **То-бок** за Маркевіча, прабачце"* (У. Караткевіч); *"Як у яго адносна шэрага рэчыва, **то-бок** інтэлекту?"* (Л. Маракоў).

***Іван Лепешаў, прафесар, доктар філалаг. навук.***

# З ВЯЛІКАЙ ЛІТАРЫ!

Гаворка пойдзе пра назву нашай дзяржавы мінулых эпох. У акадэмічных "Правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі", выдадзеных асобнай кнігай у 1959 годзе, гаварылася, што ў афіцыйных назвах дзяржаў усе паўназначныя словы пішуцца з вялікай літары. І тут, і ў шматлікіх іншых даведніках, падручніках, дапаможніках правіла ілюструецца прыкладамі тыпу: Злучаныя Штаты Амерыкі, Федэратыўная Рэспубліка Германія, Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка, Каралеўства Непал, Кітайская Народная Рэспубліка. Сюды ж можна дадаць і параўнальна нядаўнія аналагічныя складаныя найменні: Садружнасць Незалежных Дзяржаў, Рэспубліка Беларусь, Расійская Федэрацыя. Але ў энцыклапедыях, манаграфіях, падручніках і артыкулах па гісторыі ці літаратуры, як толькі размова заходзіла пра **Вялікае Княства Літоўскае**, другое слова, насуперак правілу, пісалі з малой літары.

У 1999 годзе быў апублікаваны акадэмічны праект новай рэдакцыі "Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі". Сярод розных удакладненняў тут на с. 56 паўтараецца ранейшае правіла аб напісанні з вялікай літары ўсіх слоў у назвах дзяржаў, але ў якасці прыкладаў прыводзіцца ўжо і Вялікае Княства Літоўскае. У кастрычніку 1999 года "Настаўніцкая газета" змясціла інтэрвію з дырэктарам інстытута мовазнаўства акадэмікам А. І. Падлужным, пад кіраўніцтвам якога ажыццяўляўся праект новага правапісу. Аляксандр Іосіфавіч выказваў спадзяванне, што да сярэдзіны 2000 года будзе адпаведная ўрадавая пастанова аб увядзенні ў дзеянне абноўленых првілаў, а да канца года плануецца перавыдаць папраўлены акадэмічны "Слоўнік беларускай мовы". З таго часу прайшло чатыры гады, але няма ні саміх правілаў, ні абноўленага нарматыўнага слоўніка. Між іншым, гэты факт пра многае гаворыць сам за сябе.

Незалежна ад гэтага, аднак, у друкаванай маўленчай практыцы памалу ўсталёўваюцца некаторыя напісанні, занатаваныя ў праекце арфаграфічных правілаў. Так, амаль ва ўсіх беларускіх выданнях цяпер пішуць з вялікай літары: Бог, Гасподзь, Усявышні, Уладыка Нябесны, Божая Маці і пад. Пішуць "э" ў канцы нязменных слоў (***рэзюмэ, рэнамэ***), у сярэдзіне шмат якіх запазычаных назоўнікаў: ***вальдшнэп, дыспансэр, джэнтльмэн, кансэнсус, мадэмуазэль, нонсэнс, паланэз, сэрвіс, тунэль, экзэма, экзэмпляр*** і інш.

Цяпер "Настаўніцкая газета" (напрыклад, за 21.XII.2000 г.), "Літаратура і мастацтва", "Маладосць", "Роднае слова" (напрыклад, у № 10 за 2003 г., с. 6) пішуць з вялікай літары ўсе словы ў назве Вялікае Княства Літоўскае, Рускае, Жамойцкае і, само сабой зразумела, у абрэвіятуры ВКЛ. Але ў некаторых выданнях прадаўжаюць друкаваць па-ранейшаму; напрыклад, у часопісе "Полымя" (2003, № 10, с. 18): *"па пратэкцыі палявога пісара Вялікага княства Літўскага"*; у "Народнай волі" (29.X. 2003): "Вялікае княства Літоўскае". Або пішуць і так і гэтак; напрыклад, у "Нашым слове": "Вялікае княства Літоўскае" (29.X.2003) і "Вялікага Княства Літоўскага" (5.XI,2003).

Будзем спадзявацца, што ўсе аўтары стануць трымацца логікі, а не традыцыі і фанатычнага кансерватызму ў арфаграфіі, будуць пісаць з вялікай літары ўсе словы ў назве нашай дзяржавы мінулых эпох, як пішуць гэта ў назвах іншых дзяржаў.

***Іван Лепешаў, прафесар, доктар філалагічных навук.***





# Слуцкі збройны чын 1920 г. і лёсы паўстанцаў

Адной з геraічных старонак у гісторыі барацьбы беларускага народа за сваю незалежнасць з'яўляецца Слуцкі збройны чын 1920 года. 27 лістапада 1920 года пачалася ўзброеная барацьба патрыётаў на Случчыне за незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі, супраць захопу Беларусі Савецкай Расіяй. Адначасова беларускае сялянства бараніла сваё сацыяльнае становішча ад аграрнай палітыкі савецкай улады ("ваеннага камунізму"). Асноўнымі чыннікамі Слуцкага збройнага чыну 1920 г. былі шырокія масы беларускага сялянства, свядомыя беларусы-гараджане і беларуская нацыянальная інтэлегенцыя. Да паўстання далучыліся і незадаволеныя бальшавіцкай уладай людзі.

### Заканчэнне савецка-польскай вайны

Узначальваў выступленне жыхароў Слуцкага павету Беларускі нацыянальны камітэт у Слуцку. Слуцкае паўстанне адбывалася ў канцы савецка-польскай вайны 1919-1920 гг. Падчас другога наступу польскіх войскаў на Беларусь восенню 1920 г. (у выніку разгрому войскаў Чырвонай арміі пад Варшавай) пасля вулічных баёў часткі польскай 11-й дывізіі пяхоты 11 кастрычніка 1920 г. зноў занялі Слуцк (раней польскія войскі валодалі горадам ад 10 жніўня 1919 г. да 15 ліпеня 1920 г.) і, адкінуўшы на ўсход часткі 17-й стралковай дывізіі, прасунуліся на 25 кіламетраў, дзе спыніліся праз шэсць дзён пасля падпісання ў Рызе Савецка-польскага перамір'я і дагавору аб папярэдніх умовах міру ад 12 кастрычніка 1920 г.

Устанаўлівалася дзяржаўная мяжа паміж Польшчай і Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай Беларусь за 40-45 кіламетраў на захад ад Слуцка Польскія войскі заставаліся на занятай імі тэрыторыі БССР да заключэння асобнага пагаднення аб адводзе за лінію дзяржаўнай мяжы.

Пасля спынення ваенных дзеянняў і адводу польскіх войскаў за лінію ўтворанай дзяржаўнай мяжы паміж польскімі войскамі і Чырвонай арміяй утваралася нейтральная зона ў 30 кіламетраў – па 15 кіламетраў ад лініі дзяржаўнай мяжы з кожнага боку, куды ні Чырвоная армія, ні польскія войскі заходзіць не мелі права. Нейтральная зона была ліквідавана толькі пасля падпісання канчатковага мірнага дагавору паміж Польшчай і Расіяй (Беларуская ССР дагавору аб падзеле сваёй тэрыторыі не падпісвала), умовы якога яшчэ пяць месяцаў абмяркоўваліся на перамовах у Рызе. Дамова аб міры была падпісана 18 сакавіка 1921 г. і ратыфікавана ў красавіку 1921 г.

Такім чынам, пасля спынення ваенных дзеянняў польскія войскі на поўдні Беларусі кантралявалі раёны на ўсход ад толькі што вызначанай дзяржаўнай мяжы Польшчы і БССР. Тэрыторыя Слуцкага павету была цалкам занятая польскімі войскамі, а заходняя ягоная частка з Нясвіжам, Клецкам, Ляхавічамі і Дзяніскавічамі афіцыйна перададзеная расійскай савецкай дэлегацыяй у Рызе ў склад Польшчы. Фармальна ўсходняя частка Слуцкага павету лічылася ў складзе БССР, але савецкай улады тут не было. Слуцкі павятовы рэвалюцыйны камітэт – прызначаны звыш орган савецкай улады ў павеце – знаходзіўся за лініяй фронту Чырвонай арміі, у Старых Дарогах.

### Нацыянальна-вызвольны рух на Случчыне

Слуцк і Слуцкі павет былі асяродкамі актыўнай дзейнасці беларускага нацыянальнага руху. Тут і раней была моцная нацыянальна-вызвольная традыцыя ў грамадскім жыцці, якая падтрымлівалася ідэямі незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі. Беларусы актыўна выступалі за незалежнасць, яшчэ ў 1918 г. у Слуцку быў створаны Беларускі нацыянальны камітэт, які прыступіў адразу да творчай дзяржаўнай працы, вёў асветніцкую, культурную і кааператыўную дзейнасць. Пасля прыходу расійскіх бальшавікоў у снежні 1918 г. Беларускі нацыянальны камітэт быў ліквідаваны. У студзені 1919 г. Беларускі нацыянальны камітэт аднавіў працу на чале з Паўлам Жаўрыдам Палітычна камітэт знаходзіўся пад уплывам беларускіх эсэраў, падтрымліваў падчас польскай акупацыі антыпольскі падпольны і партызанскі рух, стварыў гарадскую і павятовую беларускую міліцыю. У траўні 1920 г. Беларускі нацыянальны камітэт у Слуцку выступіў з пратэстамі да ўрадаў Польшчы і савецкай Расіі, у якіх асудзіў тайныя перагаворы пра падзел Беларусі.

Пасля заняцця Слуцка Чырвонай арміяй у ліпені 1920 г. Беларускі нацыянальны камітэт быў зачынены. Але з лета 1920 г. у горадзе працаваў камітэт партыі беларускіх сацыялістаў-рэвалюцыянераў, бо ў часе вайны партыя беларускіх эсэраў была саюзніцай бальшавікоў у барацьбе супраць Польшчы.

У кастрычніку 1920 г. Слуцк занялі польскія войскі, і Беларускі нацыянальны камітэт адразу ўзнавіў сваю дзейнасць. Аднак сярод беларускіх нацыянальных дзеячоў у Слуцку не было адзінства. Тут існавалі групы розных палітычных поглядаў. Гэта выклікала рознагалоссі і адмоўна адбілася на далейшым ходзе падзей, бо быў страчаны час для лепшай арганізацыі беларускага войска, ды і ў часе паўстання непаразуменні ў кіраўніцтве ўплывалі на палітыку Беларускай рады Случчыны і, нават, у вайсовым камандаванні.



Польскія вайсковыя ўлады толькі ў лістападзе 1920 г. перадалі цывільную ўладу ў Слуцку і павеце Беларускаму нацыянальнаму камітэту. У валасцях і вёсках дэмакратычным шляхам выбараў былі ўтвораныя адпаведныя беларускія нацыянальныя камітэты, якія замянілі прызначаных польскімі ўладамі войтаў у валасцях і солтысаў у вёсках.

### З'езд Случчыны і Рада Случчыны

Прадстаўнікі беларускіх эсэраў займалі незалежніцкія пазіцыі, упэўненыя, што іх роднай зямлі не патрэбны патранаж ні Польшчы, ні Расіі. Яны вырашылі склікаць з'езд Случчыны, каб установіць легальную ўладу.

Былі праведзены выбары на з'езд: па пяць прадстаўнікоў ад кожнай валасці і па аднаму прадстаўніку ад беларускіх культурна-асветніцкіх гурткоў, якія існавалі ў горадзе і вёсцы.

Першы беларускі з'езд Случчыны азбыўся 14-15 лістапада 1920 г. у Слуцку ў вялікай зале дома Э. Вайніловіча, фундатара Чырвонага касцёла ў Менску. На з'езд сабралася 107 прадстаўнікоў горада Слуцка і 15 валасцей Слуцкага павету з правам пастанаўляючага голасу і 10 прадстаўнікоў – з правам дарадчага. Кіравалі з'ездам беларускія эсэры. Старшынём з'езду быў абраны Васіль Русак, а віца-старшынём – Уладзімір Пракулевіч.

14 лістапада з'езд прыняў рэзалюцыю, у якой вітаў Найвышэйшую раду Беларускай Народнай Рэспублікі і заявіў катэгарычны пратэст супраць савецкай улады ў Беларусі "як чужацкай". У рэзалюцыі змяшчаўся заклік "да ўсяго свету і Лігі Нацый аб дапамозе ў стварэнні нашай вайсковай сілы" Асноўным зместам гэтай рэзалюцыі было рашэнне падняць паўстанне "супраць акупацыі", за "незалежную Беларусь".

З'езд Случчыны выбраў Раду Случчыны Беларускай Народнай Рэспублікі ў складзе 17 чалавек на чале з У. Пракулевічам, даверыў ёй цывільную ўладу і даручыў арганізацыю нацыянальнага войска. Рада Случчыны лічылася часовым урадавым органам аж да ўтварэння выбранага органа на Беларусі.

На з'ездзе былі абвешчаны патрыятычныя лозунгі, якія адлюстроўвалі інтарэсы беларускага народа: аб "вольнай, незалежнай дэмакратычнай Беларускай Народнай Рэспубліцы ў яе этнаграфічных граніцах", аб беларускай арміі і беларускім устаноўчым сойме, аб братэрстве ўсіх славянскіх народаў.

Ад 16 лістапада пачалі сваю дзейнасць Рада Случчыны з 17 сяброў і яе прэзідыюм з пяці чалавек. У складзе Рады было восем беларускіх эсэраў – У. Пракулевіч, В. Русак, М. Асвяцімскі і іншыя. Да іх прымыкалі спачуванцы, такія, як Ю. Лістапад. Другой групай у радзе Случчыны былі прыхільнікі генерала С. Булак–Балаховіча – А. Паўлюкевіч, І. Маўэлі і іншыя. Урэшце былі і прадстаўнікі "нейтральных груп".

Першачарговай справай Рады Случчыны з'яўлялася фармаванне войска, дзеля чаго была створана вайсковая тройка з сяброў рады – П. Жаўрыда капітана А. Анцыповіча і паручніка і Мацэлі, якія спешна пачалі збіраць узброеныя аддзелы. Іншыя сябры рады займаліся арганізацыяй розных цывільных установ.

Слуцкая рада 21 лістапада выдала дэкларацыю, якая заклікала сялянства на барацьбу з "незалежную Беларусь у яе этнаграфічных граніцах" і за "інтарэсы сялянства"

Пры актыўнай патрыятычнай падтымцы сялянства і гараджан Слуцка Рада Случчыны за тры дні сфармавала з добраахвотнікаў 1-ю Слуцкую брыгаду стральцоў Беларускай Народнай Рэспублікі ў складзе двух палкоў: 1-га Слуцкага і 2-га Грозаўскага.

Фармаванне войска рабілася паспешна, бо, паводле ўмоў прэймінарнай мірнай дамовы, польскія войскі павінны былі хутка адысці за лінію граніцы. Вывад польскіх войскаў пачаўся толькі пасля падпісання адмысловага пагаднення (14 лістапада) – з 22 лістапада. У раёне Слуцка гэты адвод войскаў адбываўся ў апошняй дэкадзе лістапада 1920 года.

24 лістапада 1920 года польскія войскі пакінулі Слуцк. 29 лістапада савецкія часткі выйшлі на новую для іх дэмаркацыйную лінію: мястэчка Вызна-мястэчка Леніна, заняўшы горад Слуцк. Паміж дзяржаўнай граніцай 1920 г. і дэмаркацыйнай лініяй савецкіх войскаў утварылася 15-кіламетровая нейтральная паласа. Такая ж 15-кіламетровая нейтральная зона была і на польскім баку граніцы.

Слуцкая Рада разам з Слуцкай брагадай адышла на захад, у мястэчка Семежава, якое знаходзілася ў нейтральнай зоне (прыкладна у 8 кіламетрах на ўсход ад граніцы). Тут да канца лістапада 1-ы Слуцкі полк быў сфармаваны, а фармаванне 2-га Грозаўскага палка ўжо амаль здакончылася.

Слуцкая брыгада, як сведчыла 27 лістапада 1920 г. гарадзенская газета "Беларускае Слова" і як потым пацвердзіў камандзір брыгады А. Сокал – Кутылоўскі, складалася з 4 тысячаў чалавек. А з рэзервай брыгада налічвала 10 тысяч чалавек.

На ўсіх зброі не хапала. На пачатку паўстання ў Слуцкай брыгадзе было ўсяго 300 карабінаў, перададзеных польскімі ўладамі, і 500 вінтовак, якія прынеслі з сабой самі паўстанцы. Потым, праўда, выявілася што польскія карабіны са збітымі прыцэламі і для баёў непрыдатныя. Калі пачалося паўстанне, з Лунінца праз Беларускую вайсковую камісію брыгадзе былі перададзены яшчэ вінтоўкі ды кулямёты. Частку зброі атрымалі ад дызертыраў, якія ўцяклі з Чырвонай арміі, або зброю ўзялі ў баях, як вайсковыя трафеі. У снежні, як сьведчыла беларуская газета "Наша Думка" (1921, № 11, 18 сакавіка), брыгада мела ўжо 2 тысячы вінтовак і 10 кулямётаў. Аднак зброі на ўсіх усё-такі не хапала.

Артылерыі ў паўстанцаў наогул не было. Забеспячэнне харчаваннем спачатку наладзілі самі сяляне, але, па меры скарачэння тэрыторыі пад кантролем паўстанцаў, яно пагаршалася.

Камандзірам брыгады Рада Случчыны прызначыла аднаго з сяброў Рады – капітана А. Анцыповіча. КамандавацЬ 1-м Слуцкім палком прызначылі капітана генеральнага штабу расійскай арміі П. Чайку (ураджэнца Случчыны), які да другой польскай акупацыі служыў на пасадзе памочніка ваеннага кіраўніка Слуцкага павятовага ваеннага камісарыяту. Камандзірам 2-га Грозаўскага палка стаўся капітан Л. Семянюк, які з лютага 1920 г. камандаваў Першым Беларускім партызанскім аддзелам, створаным Беларускай Вайсковай Камісіяй у Менску.

Брыгада была пяхотная, палкі яе падзяляліся на батальёны і роты. Батальёны былі асноўнымі баявымі адзінкамі. У яе складзе знаходзіўся конны аддзел, а таксама палкавыя абозы і збраёвая майстэрня. Быў сфармаваны і асобны ад брыгады аддзел з дзвюх ротаў. У палках створаныя палкавыя штабы. Арганізаваны штаб брыгады, аддзелы выведкі і контрвыведкі. Лекар А. Паўлюкевіч арганізаваў палявы шпіталь, а Я. Біруковіч – вайсковы суд. Беларуская Вайсковая Камісія ў Лодзі прыслала 12 беларускіх афіцэраў, але ў Брыгадзе засталося чацвёра з іх. Такім чынам, за некалькі дзён было створана вайсковае злучэнне войскаў Беларускай Народнай Рэспублікі.

### Паўстанне

27 лістапада 1920 года пачаліся баявыя дзеянні Слуцкіх паўстанцаў. Баі вяліся на ўчастках 1-га Слуцкага палка – ад мястэчка Семежава да мястэчка Вызна, г. зн. працягласцю прыкладна 20 кіламетраў. Ад 27 лістапада падраздзяленні 1-га Слуцкага палка рабілі пастаянныя напады на месцы размяшчэння частак 8-й дывізіі савецкіх войскаў, на яе палявыя варты і заставы на дэмаркацыйнай лініі. Якраз у гэты час чырвонаармейскія часткі канчаткова займалі гэтую лінію, скончыўшы яе заняцце 29 лістапада. У наступныя дні паўтараліся безупынныя напады і на ўчастку 2-га Грозаўскага палка на палявыя варты савецкіх войскаў, асабліва моцныя на ўчастку Капыль – Цімкавічы – Вызна, ужо працягласцю 60 кіламетраў.

Камандаванне 16-арміі савецкіх войскаў, якая размяшчалася ў БССР, вырашыла ачысціць нейтральную зону ад паўстанцаў (хаця па ўмовах перамір'я ў нейтральную зону, нават на сваёй тэрыторыі, войскі абодвух бакоў – польскага і савецкага – заходзіць не мелі права). Польскія ўлады далі дазвол на ўваход савецкіх войскаў у нейтральную зону на тры дні, пачынаючы з 4 снежня.

На працягу месяца, пакуль доўжылася паўстанне, польскія ўлады неаднаразова дазвалялі чырвоным войскам заходзіць у нейтральную зону. Гэтая пастанова польскага ўрада таксама была варожай у дачыненні да паўстанцаў, бо ён адносіўся да паўстанцаў адмоўна. Аднак гэтая карная аперацыя Чырвонай арміі дала мізэрныя вынікі: было затрымана каля 50 дызертыраў і 15 перабежчыкаў. Камандаванне Слуцкай брыгады, карыстаючыся падтрымкай мясцовага насельніцтва, вывела свае асноўныя сілы з-пад удару чырвоных войскаў.

*(Заканчэнне на ст. 4.)*



№ 44 (631) 26 ЛІСТАПАДА 2003 г. Наша слова

# Слуцкі збройны чын 1920 г. і лёсы паўстанцаў

(Заканч. Пач. на ст. 3.)

Тады рэвваенсавет Заходняга фронту ўсклаў кіраўніцтва аперацыяй па барацьбе з паўстанцамі на рэвваенсавет 16-й арміі з падначаленем яму ўсіх аддзелаў унутранай службы, губчэка, асобых аддзелаў і загараджальных аддзелаў, якія знаходзіліся ў раёне размяшчэння 16-й арміі.

Толькі ў раёне Семежава частка аддзелаў паўстанцаў была разбіта і 7 снежня перайшла польскую мяжу. Пры тым польскія вайсковыя ўлады раззброілі 30 афіцэраў і 400 жаўнераў з дзвюх рот Слуцкай брыгады. Сама ж брыгада адышла да самай мяжы (на 8 кіламетраў на захад ад Семежава).

У гэты час рознагалоссі ў кіраўніцтве паўстанцаў прывялі да змены камандавання брыгадай. Камандзір 1-га Слуцкага палка капітан П. Чайка быў арыштаваны па абвінавачванні ў здрадзе. Ён, былы савецкі работнік Слуцкага ваенкамата, спрабаваў перадаць пакет з таемнымі дакументамі на савецкі бок, але старога дзеда, якога П. Чайка паслаў у Слуцк з гэтымі дакументамі, затрымалі па дарозе. П. Чайка быў арыштаваны, але здолеў збегчы з-пад арышту ў Слуцк. Аднак там ён быў арыштаваны таксама, абвінавачаны ў здрадзе Савецкай уладзе і на вырак тройкі асоба аддзелу 16-й арміі 9 студзеня 1921 г. расстраляны.

Рада Случчыны сабралася на надзвычайнае пасяджанне і пастанавіла змяніць камандзіра брыгады і начальніка контрвыведкі. Камандірам 1-й Слуцкай брыгады стральцоў БНР быў прызначаны штабс-капітан Антон Сокал-Кутылоўскі, а камандзірам 1-га Слуцкага палка падпалкоўнік А. Гаўрыловіч (раней камандзір 4-га батальёна гэтага ж палка). Камандзіру брыгады Рада Случчыны часова перадала дыктатарскія паўнамоцтвы. Цяпер штаб Слуцкай брыгады знаходзіўся ў вёсцы Грыцэвічы, у 2-х кіламетрах ад ракі Лані, у нейтральнай зоне, але ўжо на тэрыторыі, якая адышла да Польшчы паводле мірнага дагавора. Пасля вяртання з нейтральнай зоны на дэмаркацыйную лінію савецкіх частак паўстанцы зноў пачалі нападаць па перадавыя часткі Чырвонай арміі. Звычайна гэта былі начныя налёты. Так, у ноч на 10 снежня быў зроблены напад на вёскі Крывасёлкі і Навасёлкі, у ноч на 12-га – на вёску Старынь. Потым паўстанцы зрабілі спробу адцясніць перадавыя часткі Чырвонай арміі з займаных імі пазіцый. Пачаўся новы наступ Слуцкай брыгады. У ноч на 13 снежня паўстанцы зноў занялі мястэчка Семежава, але потым з боем адышлі. Штаб Слуцкай брыгады перамясціўся ў вёску Морач (у 20-ці кіламетрах на захад ад Вызны). У наступных баях у ноч на 18 снежня аддзелы паўстанцаў зноў занялі Вызну і прасунуліся на ўсход ад яе.

Сабраўшы значныя сілы, раніцай 19 снежня войскі Чырвонай арміі пачалі свой наступ, каб ліквідаваць узброены супраціў. У гэты ж дзень чырвонымі было адбіта мястэчка Вызна. Паўстанцы пачалі адыходзіць на захад да вёскі Смолічы (у 10-ці кіламетрах на захад ад Вызны). 20 снежня яны былі адцеснены да ракі Морач. У той жа дзень чырвоныя выбілі паўстанцаў і з мястэчка Семежава.

Зноў польская дэлегацыя на мірных перамовах у Рызе дала савецкай дэлегацыі згоду на ўвядзенне савецкіх войскаў у нейтральную зону. Нават на польскай тэрыторыі, каб пераследаваць паўстанцаў нават і там.

Штаб 1-й Слуцкай брыгады мусіў перабрацца ў вёску Заастравечча (Клецкі раён) каля ракі Лані, за якой стаялі польскія войскі. Сюды збіраліся і часткі паўстанцаў. Рада Случчыны прыняла рашэнне перайсці раку Лань. Перад самым адыходам за Лань 1-ы Слуцкі полк за ўдзел у баях атрымаў ад Рады палкавы сцяг залацістага колеру. Пасярэдзіне сцяга Пагоня, а навокал яе надпіс: **"Першы Слуцкі полк Беларускай Народнай Рэспублікі"**. 28 снежня 1920 г. Слуцкая брыгада перайшла за раку Лань. Але са складу брыгады адзін батальён (каля 400 чалавек) адмовіўся здавацца польскім войскам і застаўся на Случчыне для працягу ваенных дзеянняў партызанскага характару.

**Лёс паўстанцаў**

Пасля пераходу на тэрыторыю, кантраляваную польскімі войскамі, жаўнеры і афіцэры Слуцкай брыгады былі раззброены і інтэрнаваны (да афіцыйнага заканчэння савецка-польскай вайны) спачатку ў часовым лагеры ў мястэчку Сіняўка (Клецкі раён), потым у лагеры ў Беластоку, а пасля гэтага ў лагеры ў Дарагуску. Яны былі вызвалены з лагера толькі ў траўні 1921 г, пасля падпісання і ратыфікацыі канчатковай савецка-польскай мірнай дамовы ад 18 сакавіка 1921 г. Частка паўстанцаў засталася ў Заходняй Беларусі, шмат шарагоўцаў вярнулася ў БССР пасля амністыі, абвешчанай савецкай уладай у сувязі з заканчэннем грамадзянскай вайны. Нягледзячы на амністыю шмат шарагоўцаў атрымала выракі на 1 год зняволення. Пасля яны працавалі, галоўным чынам, у калгасах. Аднак у 1937-1938 гг. удзельнікі Слуцкага збройнага чыну былі арыштаваныя і зніклі бясследна.

Палітычнае і вайсковае кіраўніцтва і паўстання у большасці было рэпрэсавана савецкімі карнымі органамі, калі трапляла ім рукі.

Некалькі афіцэраў Слуцкай брыгады былі пасля заканчэння паўстання перададзены польскімі ўладамі савецкім арганам і расстраляныя, у тым ліку Анастас Анцыповіч. Некаторыя паўстанцы, што пасля амністыі вярнуліся ў 1921, 1924 і 1926 г. былі рэпрасаваныя пазней, атрымоўвалі прысуд на 5 год лагераў, а ў 1937-1938 гг. іх паўторна судзілі і расстралялі, альбо яны загінулі ў савецкіх лагерах. Некаторыя працягвалі партызанскую барацьбу. Так, Лукаш Семянюк загінуў у баі ў 1921 г.

Сярод слуцкіх паўстанцаў было шмат слаўных людзей. Адзін з іх - Макар Касьцевіч (Макар Краўцоў), аўтар гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі", які да 1939 г. дзейнічаў у беларускіх нацыянальных арганізацыях у Вільні. У 1939 г. ён быў арыштаваны ў Вільні і вывезены ў БССР, дзе і загінуў. Язэп Лагіновіч, які разам з іншымі слуцкімі паўстанцамі прымаў чынны ўдзел у патрыятычнай дзейнасці Беларускай Рэвалюцыйнай Арганізацыі ў Заходняй Беларусі, а потым стаўся нацыянальным сакратаром кампартыі Заходняй Беларусі, прыгавораны да расстрэлу. Ён памёр у 1940 г. у турме ў Менску.

1-я агульнанацыянальная палітычная канферэнцыя прадстаўнікоў беларускіх нацыянальных сілаў у Празе – Чэшскай 27-28 верасня 1921 г. разглядзела пытанне і аб Слуцкім паўстанні. У рэзалюцыі канферэнцыі адзначалася, што на Случчыне народ паўстаў "за незалежнасць і непадзельнасць сваёй Бацькаўшчыны, напісаў на сваім штандары: ***"Ні польскіх паноў, ні маскоўскіх камуністаў"***. Беларуская нацыянальна-палітычная парада канстатавала, што ***"гэтае паўстанне было задушана пераважнымі сіламі абодвух бакоў"***.

Слуцкія паўстанцы 1920 г. за кароткі тэрмін здолелі ўтварыць баяздольныя адзінкі беларускага нацыянальнага войска, якія здолелі ў неспрыяльных умовах на працягу месяца весці цяжкую барацьбу супраць больш мацнейшага супраціўніка. Аднак у тых абставінах, якія скламіся ў канцы 1920 года, без якой-небудзь дапамогі звонку, пры варожай па сутнасці пазіцыі Польшчы, лёс паўстання быў прадвырашаны. Але гэта не змяншае яго значэнне. Слуцкі збройны чын увайшоў у гісторыю, як адна са слаўных старонак беларускага нацыянальна-вызвольнага руху. 27 лістапада адзначаецца ўсімі нацыянальна свядомымі беларусамі на Бацькаўшчыне і ў розных краінах свету, як Дзень Герояў, дзень Слуцкага збройнага чыну 1920 г.

***Анатоль Грыцкевіч, доктар гістарычных навук, прафесар.***

# *Устаноўка помніка Міколу Ермаловічу ў Маладэчне*

З 20-га лістапада ў Маладэчне вяліся работы па ўстаноўцы памятнага знака на гонар вялікага беларускага гісторыка, стваральніка беларускай канцэпцыі гісторыі Вялікага Княства Літоўскага Міколы Ермаловіча.

20 лістапада на рагу вуліц Віленскай і Валынца быў устаноўлены валун чырвонага граніту, занесены некалі сюды ледавіком ажно з Фінляндыі. Міма гэтага месца Мікола Ермаловіч з дня ў дзень хадзіў на электрычку, каб ехаць у Менск у бібліятэкі і архівы.

За два дні 21-га і 22-га лістапада былі ўстаноўлены барэльеф работы скульптара Уладзіміра Мелехава і інфармацыйныя надпісы.

У адрозненне ад Зэльвы маладзечанскія ўлады ўзялі на сябе асноўны аб'ём работы па ўстаноўцы помніка і ўпарадкаванні прылеглай тэрыторыі.

Сябрам клуба "Спадчына" і ТБМ імя Ф. Скарыны Анатолю Беламу, Міколу Лавіцкаму, Алесю Цыркунову, Алесю Семяняку (Менск) ды Святаславу Паліводу (Маладэчна) засталася даставіць элементы помніка ў Маладэчна і ажыццявіць мантаж літых дэталяў на гранітным валуне. Праўда працэс мантажу заняў аж два кароткія асеннія дні.

Урачыстае адкрыццё памятнага знака абвешчана на 15.00 28-га лістапада.

Было б канешне няблага, каб маладзечанскія ўлады захавалі паслядоўнасць дзеянняў ды адразу надалі скверыку, дзе пастаўлены помнік, імя Міколы Ермаловіча, бо яго ўсяроўна будуць называць у Маладэчне менавіта так.

***Яраслаў Грынкевіч.***



***Пад аснову помніка выбраны валун чырвонага фінскага граніту***




***Анатоль Белы, Алесь Цыркуноў, Мікола Лавіцкі прымяраюць дэталі помніка.***



***Пілой-балгаркай працуе старшыня Рэвізійнай камісіі ТБМ Мікола Лавіцкі, спіной да камеры - сябар Маладзечанскай рады ТБМ Святаслаў Палівода.***



# Сустрэча ў гімназіі

Магілёўская гарадская гімназія № 1 – расейскамоўная навучальная ўстанова, як і ўсе іншыя навучальныя ўстановы абласнога цэнтра. Але вывучэнне беларускай мовы ў гэтай гімназіі пастаўлена на вельмі высокі ўзровень, найперш намаганнямі выдатнай настаўніцы Г. Бандарэнка. Для гімназістаў стала ўжо нормай займаць высокія месцы на абласных і рэспубліканскіх алімпіядах па мове ці, напрыклад, ісці па заканчэнні гімназіі на беларускія аддзяленні філалагічных факультэтаў.

З 17 па 22 лістапада ў гімназіі праходзіў тыдзень беларускай мовы. У госці да гімназістаў завіталі вядомыя ў Магілёве дзеячы беларускага адраджэння – заслужаны работнік культуры Беларусі, рэжысёр Валянцін Ермаловіч, кіраўнік грамадскага аб'яднання "Лекарскі звяз" Сяргей Кунцэвіч і намеснік старшыні абласной арганізацыі ТБМ, настаўнік матэматыкі Міхась Булавацкі. Госці расказалі аб сваіх дачыненнях з мовай, як яны аднаўлялі родную мову напрыканцы 80-х гадоў і навошта ім гэта трэба. Расповяды выклікалі жывую зацікаўленасць старшакласнікаў, яны задавалі шмат пытанняў, прычым пытанні гучалі на добрай беларускай мове. Відаць, шмат хто з гімназістаў прымервае на сябе магчымасць пастаянна карыстацца роднай мовай і прагназуе некаторае супраціўленне свайго атачэння, таму папулярнымі былі такія пытанні: На якой мове вы размаўляеце са сваімі блізкімі? Ці карыстаюцца беларускай мовай вашы дзеці? Як вы рэагуеце на непрыемныя выпады ў бок вашай мовы? Здзіўляла адказу Сяргея Сяргеевіча, што ён вядзе прыём хворых па-беларуску і ніякіх непаразуменняў гэта не выклікала. Закранулі гісторыю мовы і гісторыю Беларусі ўвогуле. Разыходзіліся, узаемна задаволеныя сустрэчай.

Па заканчэнні сустрэчы Ганна Ўладзіміраўна паказала гасцям вершы, якія яе вучні пішуць пра родную мову, пра родную краіну. Вершы ўразілі добрым паэтычным узроўнем і высокім грамадскім гучаннем.

*Штодня хварэю Беларуссю –*
*Няма ўжо лекаў для мяне.*
*Апошні час нібыта ў сне...*
*І вылечыцца ўжо не мушу...*

*Адкуль такое мне насланне?*
*За што на часткі сэрца рвуць?*
*За што на лёс мой кару шлюць?*
*А можа быць... выратаванне?*
***Андрэй Радоўскі (зараз ужо студэнт).***

На вялікі жаль, сітуацыя з мовай, падобная апісанай, не ёсць сёння правілам. Часцей можна сустрэць настаўніка ці настаўніцу беларускай мовы, для якіх мова ёсць сродкам заробку і нічым болей. Скончыўшы ўрок і ступіўшы за парог класу, яны забываюць пра родную мову і пераходзяць на мову суседняй дзяржавы, дэманструючы тым самым сваім вучням неабавязковасць валодання роднай мовай. Ёсць выпадкі ў магілёўскіх школах, калі маладая настаўніца, якая за час навучання ў ВНУ так і не здолела дасканальна авалодаць мовай, вядзе ўрокі беларускай літаратуры на расейскай мове – нібыта адгукаючыся на просьбы вучняў ("Так яны лепш разумеюць").

І зусім відавочна, што калі вучань мае аднолькавыя адзнакі па расейскай і па роднай мове, то гэта ніяк не паказвае на аднолькавасць валодання гэтымі мовамі. Проста патрабаванні да валодання вучнямі беларускай мовай з боку органаў адукацыі значна ніжэйшыя, чым патрабаванні да валодання мовай расейскай. Гэта і натуральна: патрабаванні да моўнай адукацыі не ўздымаюцца вышэй таго ўзроўню, на якім гэтай мовай валодае сённяшні беларускі (і магілёўскі ў прыватнасці) чыноўнік ад адукацыі. З боку сённяшняй улады запатрабаванасці да роднай мовы не назіраецца.

Тым важней і грунтоўней на гэтым змрочным фоне ўспрымаецца натхнёная праца Г. Бандарэнкі. На шчасце, яна такая не адна.

*Наш. кар.*

Сп. М.Я. Паўлаву
Старшыні Мінскага гарадскога
выканаўчага камітэта
220050, г. Менск, пр. Скарыны, 8

**Паважаны Міхаіл Якаўлевіч!**

Нядаўна грамадскасць нашай краіны адзначыла 120-гадовы юбілей Вацлава Ластоўскага – вядомага беларускага навукоўца і пісьменніка, грамадскага дзеяча Беларусі першай паловы ХХ стагоддзя.

Яго лёс цесна звязаны з гісторыяй Менска. Тут ён стаў адным з першых акадэмікаў АН БССР і яе неадменным сакратаром, быў першым дырэктарам Дзяржаўнага гістарычнага музея.

У сувязі з юбілеем славутага навукоўца і пісьменніка, аднаго з першых гісторыкаў Беларусі, ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" прапануе надаць імя Вацлава Ластоўскага адной з вуліц нашай сталіцы.

З павагай
**Старшыня ТБМ Алег Трусаў.**

# Энцыклапедыя старасветчыны

Знакаміты даследчык і знаўца нашых архіваў і рэрытэтаў Язэп Янушкевіч уклаў і выдаў "Кароткую энцыклапедыю старасветчыны" Вацлава Ластоўскага. Машынапіс гэтай кнігі, як ацэньвае Я. Янушкевіч можна датаваць пачаткам 20-х гадоў ХХ стагоддзя. Захоўваецца ён у Аддзеле рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Летувы, у адным з так званых "беларускіх фондаў".




Паводле ацэнкі патрабавальных даследчыкаў кожны з пададзеных у незавершаным рукапісу параграфаў, гэта "лагічна завершаная, стылістычна зграбная замалёўка з часоў старажытнае Беларусі. Зведзеныя ў адно яны ўтвараюць... панарамнае палатно нацыянальнай гісторыі - нашага сацыяльнага радаводу, нашых палітычна-дзяржаўных, рэлігійных, культурных традыцыяў. Гэта... яшчэ адзін самабытны набытак айчыннай гістарычнай думкі - мабыць той самы беларускі эквівалент, які сучасныя навукоўцы, літаратары намагаюцца выдабыць з-пад друзу спрашчэнняў, ... каб вярнуцьадэкватныя веды разам з пачуццём нацыянальнае самапавагі".

Машынапіс дачакаўся асобнага выдання толькі праз 80 гадоў. Пакаленні беларусаў засталіся абкрадзенымі. І хоць і сёння з выдання спамогуцца нямногія, бо наклад кнігі склаў усяго 300 асобнікаў, але той, хто моцна захоча прачытаць кнігу, зможа зрабіць гэта ўжо без выезду ў Віленскую бібліятэку, і "Дзякуй!" за гэта мы павінны сказаць спадару Язэпу Янушкевічу, ст. навук. супрацоўніку Інстытута літаратуры імя Я. Купалы НАНБ.

*Наш. кар.*

# Новы Магілёўскі Мартыралог

Сябры грамадскага аб'яднання "Кола сяброў", Беларускага ПЭН-цэнтра і ТБМ у Магілёве распачалі акцыю "Новы Магілёўскі Мартыралог". Мэтай акцыі ёсць жаданне захаваць памяць пра тых пачынальнікаў беларускага адраджэння ў Магілёве, якіх па волі лёсу ўжо няма поплеч з намі. Справа, якую яны распачыналі, павінна працягвацца, таму іх пераемнікі павінны ведаць, што і як рабілася, што і як атрымоўвалася і хто прыклаў да гэтага свае рукі і галовы.

А тых, хто "прыклаў", і гаворка пра гэта, на жаль, ужо ў мінулым часе, набіраецца ў Магілёве і вобласці даволі шмат: ініцыятар стварэння Магілёўскай філіі "Мартыралогу Беларусі" Тамара Раманькова; кіраўнік асацыяцыі ахвяраў палітычных рэпрэсій, былы вязень "Салаўкоў" Уладзімір Чашэй; юрысты-праваабаронцы Валер Старяроў і Сяргей Абадоўскі; філосаф, першы кіраўнік Магілёўскай філіі БНФ Уладзімір Голуб; абаронцы дзяцей Валер Шатроў і Наталля Рослава; стваральнік і кіраўнік дэмакратычнай партыі Магілёва, якая затым увайшла ў БСДГ, Лявон Міроненка; журналіст, былы вязень савецкага рэжыму за спробу выдаваць свой друкаваны орган Алесь Александровіч; вясковы журналіст, выдавец газеты "Беларускі Ўсход" Васіль Далгалёў... З пералічаных толькі двое дасягнулі пры жыцці пенсійнага ўзросту. Як на вайне...

Прэзентацыя ідэі была спалучана з вечарынай памяці вядомага польскага праваабаронцы Марэка Навіцкага, які таксама нядаўна пакінуў гэты свет. Гучалі пранікнёныя словы, асабліва цёпла і хвалявіта распавёў пра Марэка старшыня грамадскага аб'яднання "Прававая ініцыятыва" з Менску Барыс Звоскаў, які ведаў Марэка асабіста. Слухалі самога Навіцкага ў фрагментах відэазапісаў. Натуральна гутарка перакінулася на магілёўскіх праваабаронцаў, а ўсе вышэйназваныя у тым ці іншым аспекце былі праваабаронцамі. Я задумаўся: што робіць чалавека праваабаронцам? Як на мой погляд, абарона правоў – тое ж, што абарона справядлівасці. І чалавек кінецца абараняць справядлівасць толькі тады, калі адчуе ў адносінах да сябе ці сваіх блізкіх нейкую несправядлівасць. Гэта як інстынкт.

Мой бацька і яго брат, сяляне глухой беларускай вёскі, таксама прайшлі сцежкамі ГулаГА, здолелі вярнуцца, але бацька памёр, калі я пражыў толькі год. Калі я, крыху падросшы, пытаўся, дзе бацька, мне адказвалі: "Памёр". І мяне гэта тады здавальняла. А дзесьці на трынаццатым годзе жыцця маці расказала мне, як памёр. Расказала пра ўсё, што здарылася. Я дагэтуль помню тое адчуванне дзікай несправядлівасці, якое раптоўна ахапіла мяне ўсяго. Першае памкненне было – помсціць! Потым высветлілася, што помсціць ужо некаму. Бог адпомсціў не горай, чым гэта зрабіў бы я.

І асэнсоўваючы, як ішлі да гэтай дзейнасці тыя, пра каго мы ўспаміналі тым вечарам, заўважаю, што іх біяграфіі насычаны падобнымі ж сюжэтамі. Так, абараняць справядлівасць штурхае несправядлівасць.

Ленінцы, ствараючы на пачатку мінулага стагоддзя савецкую ўладу і адчуваючы супраціўленне, меркавалі, што гэтае супраціўленне можна вынішчыць, знішчаючы яго носьбітаў. Магчыма, гэта было адной з найвялікшых іх памылак. Знішчэнне аднаго чалавека парараджае адчуванне несправядлівасці ў душах блізкіх людзей (раней, магчыма, абыякавых да таго, што робіць улада) і выклікае іх адкрытае ці прыхаванае супраціўленне. Гэтыя людзі будуць шукаць сродкі і магчымасці перашкодзіць новай несправядлівасці. І чым больш несправядлівасцяў робіць улада, тым большае супраціўленне ад большай колькасці людзей будзе яна адчуваць. Такая ўлада не зможа існаваць гістарычна працяглы прамежак часу. Распад СССР – заканамерны фінал несправядлівага рэжыму. І сённяшнія памкненні асобных палітыкаў пры ўладзе адрадзіць нешта падобнае на Савецкі Саюз вядуць да выкарыстання тых жа несправядлівасцяў і таму заканамерна не могуць быць паспяховымі.

Завяршылася вечарына тостам за тое, каб "Новы Магілёўскі Мартыралог" не хутка папаўняўся, і спевамі пад гітару.

*Міхась Булавацкі.*

## Віншуем сяброў ТБМ, якія нарадзіліся ў снежні

Абдулаева Святлана
Адамоніс Валянцін
Аксючыц Галіна
Андрасовіч Таццяна
Аношка Любоў
Антаноўская Людміла
Бернякові ч Іна
Бойка Валянцін
Буданаў Зміцер
Бурак Жанна
Бурносаў Раман
Бусловіч Святлана
Вайдашэвіч Жанна
Волкава Ала
Галіноўская Ніна
Гарэцкі Радзім
Гацкі Уладзімір
Гнятуля Алег
Грыцаў Тарас
Грэская Браніслава
Гук Уладзімір
Дабрынец Аляксей
Дашкевіч Г. С.
Двілянская Бэла
Дзем'яновіч Т. А.
Дземідовіч Ігар
Дзяменцева Ірына
Дрозд Юля
Дунецкі Тадэвуш
Дучыц Людміла
Ермалёнак Марыя
Жучкова Наталля
Жыткавец Кацярына
Каваленка Святлана
Казачок Ларыса
Калыска Ірына
Камароўскі Андрэй
Каржэўскі Віктар
Каркота Анэліка
Кастанаў Аляксандр
Кірылаў Герман
Клок Валянціна
Конан Генадзь
Краўчук Сяргей
Курневіч Лізавета
Курчэнка Браніслаў
Курыльчык Аляксандр
Лашук Міхаіл
Лозка Алесь
Лук'янцаў Алег
Матчэня Алег
Мацко Сяргей
Мілаш Валеры
Ніканаровіч Генрых
Нікіціна Зінаіда
Ожык Галіна
Панцялей Аляксандр
Папека Мікалай
Поцька Віталь
Пяторўская Алена
Рамашкевіч Алег
Русецкая Ала
Савіцкая Тарэза
Свідуновіч Галіна
Станішэўскі Віталь
Супаненка Павел
Талерчык Аляксандр
Трафімчык Таццяна
Трушко Уладзімір
Цыва Андрэй
Цыцыліна Таццяна
Швед Аляксандр
Шушкевіч Станіслаў
Шымук Марыя
Шэпетаў Мікалай

# Грэка-каталіцкая (уніяцкая) царква ў Лідзе і Лідскім павеце

***15 лістапада ў Лідскім фарным касцёле ў рамках парафіяльнага свята Лідкай грэка-каталіцкай парафіі Язафата Кунцэвіча адбылося святочнае набажэнства на памяць 380-х угодкаў забойства Язафата Кунцэвіча ў Віцебску 12 лістапада 1633 года. Набажэнства ў прысутнасці гарадзенскага каталіцкага біскупа Антонія адправіў апостальскі візітатар для беларусаў грэка-католікаў архімандрыт Сяргей Гаек. Імша, як і заўсёды, праводзілася на беларускай мове.***

Уніяцкая царква, створаная на царкоўным саборы 1596 г. у Берасці, на працягу 17-18 ст. ўсталёўваецца на Лідчыне. У першай палове 17 ст. у г. Ліда дзейнічаюць 4 грэка-каталіцкія цэрквы: Св. Яна, Св. Мікалая (на рыначнай плошчы), Св. Спаса і царква Прачыстай Багародзіцы. У 1650 годзе кароль Ян Казімір царкву Св. Спаса перадае праваслаўнай парафіі. Па другой версіі царкву Св. Спаса перадаў праваслаўным кароль Уладзіслаў IV у 1633 г.

Юры Мікалаевіч Радзівіл (1578-1613) - уладальнік вёскі Дакудава , стварыў там грэка-каталіцкі прыход. Пэўна гэта адна з найбольш ранніх грэка-каталіцкіх парафій на Лідчыне.

Уніяцкія цэрквы гінуць пад час вайны з Расіяй 1654-1667 гг. ("Патопу") ад рускіх войск Хаванскага. Пасля працяглай аблогі і абстрэлу з гарматаў, летам 1659 г., расейскае войска ўзяло штурмам Лідскі замак і цалкам спаліла горад. Гэта быў ужо другі штурм горада ў гэтай вайне. Першы раз: восенню 1655 г. украінскія казакі пусцілі пад шаблю ўсё Панямонне, у тым ліку і Ліду. Лідскі павет страціў 30% насельніцтва. Асабліва даставалася ўніяцкай царкве. Сам уніяцкі мітрапаліт ратаваўся толькі тым, што таемна пераходзіў з месца на месца, несучы з сабою рэшткі мошчаў полацкага ўніяцкага арцыбіскупа Св. Язафата Кунцэвіча, якія да вайны захоўваліся ў Полацку (зараз мошчы Св. Язафата - патрона сучаснай Лідскай грэка-каталіцкай парафіі, знаходзяцца ў саборы Ап. Пятра і Паўла, Рым). У 1658 г. цар загадаў свайму віленскаму ваяводу Міхайлу Шахоўскаму *"из города Вилны и из иных городов и мест, которые к Вилне близко, униятов всех, кто где живет... высылать вон тотчас, и заказ учинить крепкой, чтоб впредь униятов нигде не приймовали и высылали их вон, чтобы от них в вере каких расколов не было"*. Сабраўшы ўніятаў, ваявода абвясціў ультыматум: або яны перахрысцяцца ў праваслаўе, або іх выганяць. Пазнаўшы такую талеранцыю, беларусы да канца 17 ст. , амаль цалкам перайшлі... ў унію.

Ёсць звесткі аб тым што, царква Прачыстай Багародзіцы захавалася да пачатку 19 ст., на мапе горада сярэдзіны 19 ст. на яе месцы пазначан шпіталь . У 1765 г. з дрэва разабранага Фарнага касцёла (замест яго быў пабудаваны сучасны мураваны Фарны касцёл) паміж гарадскімі каталіцкімі могілкамі і млынам была пабудавана ўніяцкая царква Уваскрашэння Гасподняга. Пры царкве дзейнічаў невялікі шпіталь. У легендзе мапы горада канца 18 ст. гэтая царква пазначана літарай "О" , але знайсці яе на мапе немагчыма, і А. Краўцэвіч у манаграфіі "Гарады і замкі Беларускага Панямоння" пазначыў *"О-уніяцкая царква, на мапе неразборліва"*.

М. Нарбут у працы "Ліда і лідзяне" піша аб такім выпадку з гісторыі Лідскай уніі: *"Ржэвускі (аўтар "Лістапада") у творы "Апавяданні старца" выдадзенага ў Варшаве 1854г., у томе II на стар. 220 успамінае пра цуд, здзейснены ў Лідзе богалюбівым капланам базыліянінам Атаназам Хароўным, каторы ў часы голаду, што панаваў на Літве ў 1744 годзе, на гарадскім рынку сярод дня, стос камянёў у стос боханаў знакам святога крыжа перамяніў. Гэта падцверджана паказаннямі сведкаў: болей за тысячу сялян і некалькіх дзесяткаў шляхты тым хлебам накормленых"*, - і там жа далей: *"Цэрквы даўней уніяцкія (цяпер расейскія) драўляныя, размешчаны: у Сабакінцах, Радзівонішках, Ганчарах, Зблянах, Астрыно, Ворле, Ракавічах, Турэйску, Бабрах, Глыбокім і Беліцы; найвыдатнейшыя ў Дзікушках і Мураванцы (вельмі старажытная) "*.

На працягу 17 ст. уніяцкія прыходы былі створаны таксама ў вёсках: Голдава, Дакудава, Жыжма, Лябяда, Мыто,Васкевічы, Вялікае Мажэйкава.

У 1718 г. маёнтак Голдава выкупіў трокскі падсудак Ф. М. Вянцковіч. Тады ж ён перавёў манастыр з царквой у унію. Так быў заснаваны Голдаўскі Базыльянскі манастыр. А ў 1721 г. Вянцковіч запісаў Базыльянскаму манастыру фундуш на зямлю і сялян. Наогул, базыльянскі ордэн быў створаны ў 1617 г. у Навагрудку, калі адбылася 1-я кангрэгацыя новага ордэна Базыльян. Быў прыняты статут, распрацаваны ўніяцкім мітрапалітам Руцкім на аснове правіл св. Васіля і на ўзор статутаў каталіцкіх ордэнаў. Руцкі быў абраны першым протаархімандрытам (гэнералам ордэну). Рэзідэнцыяй яго стаў кляштар у Тараканях (Кобрынскі павет). На Беларусі існавала 55 базыльянскіх кляштароў. Яны займаліся асветай. Шырокую вядомасць набылі базыльянскія школы. Ордэн выдаваў кнігі. Друкарні ордэна былі ў Вільні, Супраслі, Менску, Львове, Пачаеве. З 1628 г. па 1800 г. выдадзена каля 1080 назваў кніг, з іх каля 40% - свецкія. Пасля скасавання уніі ў 1839 г. Базыльянскія манастыры засталіся ў Галіцыі (зліквідаваныя Сталіным у 1946 г.). Але Ордэн дзейнічаў у эміграцыі. Напрыканцы 1980 гадоў базыльяне аднавілі сваю дзейнасць на Беларусі і Украіне.

Уніяцкай царкве быў перададзены Кармеліцкі манастыр у Лідзе, пасля ягонага скасавання ў 1832 годзе.

Па рашэнні Наваградскай кангрэгацыі дэканаў у 1753 годзе ў кожным уніяцкім дэканаце адчыніліся школы для дзяцей святароў. У Лідскім дэканаце такая школа адчынілася ў Орлі, і адказнасць за адукацыю дзяцей неслі святары з вёсак Васкевічы, Збляны, Жыжма. Сыны святароў ва ўзросце ад 7 да 10 гадоў, за кошт бацькоў, тры гады вучыліся чытаць "па рускаславянскім" псалтыры, актоіхі і ірмалогіі, навучаліся царкоўным спевам і парадку набажэнства. Калі б хто з духавенства не пажадаў аддаць свайго сына ў школу, то караўся штрафам на працягу трох год па 3 талеры штогод. Гэты штраф паступаў на выхаванне ў школе бедных дзяцей.

У архівах захаваліся звесткі аб некаторых рысах быту ўніяцкіх прыходаў і святароў. Напрыклад аб пропусках набажэнства радзівонішскім святаром з-за п'янства ў 1725 г. і дрэннай службе прасвітара гэтай жа царквы Івана Герасімовіча, які ў 1748 г. таксама зрываў набажэнствы. Нядзіўна што, як мы пабачым далей, у 19 ст. гэтая царква прышла ў заняпад і была разбурана. Захаваліся звесткі аб незаконным зборы падаткаў у павялічаных памерах лідскім дэканам Бялькевічам 1787 г., аб забойстве святара Мытлянскай царквы Багдана Варацінскага ў 1671 г., аб абвінавачванні жыжмянскага адміністратара ў "неблагоповедении" (1780 г.), захаваўся запавет лідскага земяніна Сільвестра Войны Аранскага пахаваць яго ў Жыжмянскай царкве (1667 г.), вопіс каштоўнасцяў Лябёдскай царквы. Зразумела, што ў архівы траплялі ў асноўным, нейкія экстраардынарныя факты, але ж для нас, цікава нават гучанне прозвішчаў нашых продкаў, бо матэрыялаў па гісторыі ўніі на Лідчыне таго часу амаль што не засталося.

Паводле ***"Ведомости о греко-униицких церквях и моностырях Бресткой епархии"*** за 1827 г. у Лідскім павеце было 18 уніяцкіх цэркваў і адзін манастыр, якія мелі 22 496 прыхаджан. Згодна з дадзенымі 1838 года Ганчарскую царкву наведвалі 1230 вернікаў-уніятаў, да Глыбоцкай было прыпісана 1872 чалавекі, да Голдаўскай 1047, Дзікушскай - 614, Дакудаўскай - 922, Жыжмянскай - 725, Лябёдскай - 812, Зблянскай - 1135, Маламажэйкаўскай (Муранскай) - 497, Мытлянскай - 272, Арлянскай - 1400, Астрынскай - 3327, Ракавіцкай - 630, Сабакінскай - 1379, Турэйскай - 947, Баброўскай - 417, Дэмбраўскай - 853. Згодна з хронікай касцёла в. Ішчолна ў 1801 г. прыход грэка - каталіцкай капліцы ў Вялікім Мажэйкаве налічваў 1300 чалавек.



***Вёска Мураванка, царква-цвердзь. Пабудавана у 1524 г з цэглы.***

**Наступ на ўнію пачаўся адразу ж, як толькі Беларусь была далучана да Расеі. У 30-х гг. пачалася перадача ўніяцкіх храмаў праваслаўнай царкве, а пасля Полацкага сабора 1839 г. уніяцкая царква была гвалтоўна зліквідавана.**

У 1834 г. пачалося ўсталяванне праваслаўных іканастасаў ва ўніяцкіх храмах Лідчыны. Пад нутранае пераабсталяванне першай падпала Голдаўская царква, за ёй Ракавіцкая, Астрынская. Арлянская, Сабакінская, Ганчарская і Лябёдская - аказаліся настолькі беднымі, што няздольныя былі за ўласны кошт запрасіць сталяроў і мастакоў. Радзівонішскую царкву вырашылі наогул знішчыць, бо яна была ў дрэнным стане. Лідскаму дабрачыннаму С. Брэну 24 студзеня дакладзена: *"О починке Радзивонишской церкви сообщено лидскому уездному предводителю дворянства ... предложить ему чтобы о починке этой церкви не оставил старание, и ... Бренну ежемесячно рапортовал"*. 29 студзеня 1840 г. лідскі прадвадзіцель дваранства рапартаваў С. Брэну, *"что устройство Радзивонишской церкви поручено г. уездному судье Журавскому"*. У выніку царкву адрамантаваць так і не змаглі.

Святар і вернікі з Дакудава аказалі супраціў зменам у інтэр'еры свайго храма, так што, як даносіла афіцыйная асоба "употребляется деятельное настаивание" аб усталяванні тут іканастаса. 30 снежня 1835 г. Гарадзенскі губернатар Копцеў загадаў прыбраць з уніяцкіх цэркваў усе рэчы неўласцівыя расейскай царкве: арганы, лаўкі, званочкі. На гэта адводзілася 5 месяцаў. 25 сакавіка 1836 года Лідскі земскі спраўнік палкоўнік фон Берг інфармаваў губернатара, што такая работа ў Лідскім павеце ўжо распачата, і ён дае абяцанне прасачыць, каб яна была выканана дакладна. Арганы неабходна было прадаць, а калі не знойдуцца пакупнікі, проста разабраць. Арганісты пераводзіліся на іншыя духоўныя пасады. Арганы тады меліся ў Баброўскай, Голдаўскай, Сабакінскай і Маламажэйкаўскай (Мураван-скай) цэрквах. 14 лютага, ужо губернскі вайсковы начальнік фон Берг піша лідскаму дабрачыннаму С. Брэну аб: *"... неприступлению к устройству иконостасов Остринской, Собакинской и Глембокской церквей ...а ... церкви в Демброве и Дикушках ещё не построены..."*

У 1834-1835 г.г. у сувязі з ліквідацыяй уніяцтва Голдаўская царква падпала пад нутраную перабудову: устаноўлены праваслаўны іканастас, разабраны арган, вынесены лаўкі, забраны званочкі. Передача царквы ў праваслаўе не абышлася без абурэння тутэйшых жыхароў. Лідскі земскі спраўнік Вітэнгоф 2 снежня 1834 г. дакладваў Гарадзенскаму губернатару Н. Н. Мураўёву: ***"У Голдаўскай царкве так мала бывае людзей з чэрні таго прыходу. Ёсць нагода заначыць, што ў Баброўскай царкве, што ў бліжэйшай адлегласці знайходзіцца, яшчэ няма інакастасу, куды зараз павярнуліся прыхаджане Голдаўскага прыходу"***. Мураўёў адзначыў: *"... загадваю старацца ў дакладнасці выканаць ускладзенае на Вас прадпісанне: абстаяліваць інакастасы і іншыя духоўныя прынады па грэка-усходняму абраду. Даносіць мне толькі пра поспехі справы"*.

Лідскі спраўнік адным з першых у губерні, зрабіў справаздачу, што арганы знішчаны, лаўкі вынесены, іншыя рэчы зліквідаваныя.



***Вёска Голдава, царква Раства Багародзіцы. Пабудавана ў 1795 г. з дрэва.***

Старыя беларускія кнігі збіраліся па ўсіх парафіях і паліліся. Мітрапаліт Іосіф Сямашка піша ў сваіх "Запісках", што толькі за 3 гады было сабрана і спалена па яго загаду больш за 2000 беларускіх старадрукаў. Замест беларускіх кніг у Расеі друкаваліся новыя, на расейскай мове. Так 24 студзеня 1840 г. лідскаму дабрачыннаму С. Брэну даводзілася аб неабходнасці: *"снабжения всех церквей проскомидийными листами согласно обрядов русской церкви"*, а 30 чэрвеня 1840 г. *"... Святейшый синод поможет ...отпустить для воссоединения церквей 1442 экземпляров малого требника ..."*

Святароў прымушалі падпісвацца пад паперай з адмовай ад уніі. Аднак 593 святары на Беларусі, не зважаючы на пагрозы, наадрэз адмовіліся даць свой подпіс і згадзіцца са скасаваннем уніі. Усіх гэтых святароў, у асноўным бацькоў многадзетных сем'яў, чый сацыяльны статус не вельмі адрозніваўся ад сялянскага, пасадзілі ў манастырскія турмы на розныя тэрміны. Часткова ў манастыры Беларусі (Быцень, Жыровічы), часткова ў глыб Расеі. 1243 святары падпісалі гэты ліст. 18 студзеня 1840 г. у Літоўскай Кансісторыі слухалі ігумена Быценскага манастыра Лявонція Аколава пра знаходзячагася ў тым манастыры *"на искуплении"* Іосіфа Тымінскага, пакаранамга за "запорное поведение". Лідскаму дабрачыннаму С. Брэну даводзілася, што гэты святар накіроўваецца у Астрынскаю царкву Лідскага павету дыяканам. С. Брэну загадвалася *"употребить меры по исправлению Иосифа Тыминского"*. 22 чэрвеня дабрачынны С. Брэн рапартаваў Літоўскай Кансісторыі, што паміж святаром Астрынскай царквы Гінтаўтам і дыяканам гэтай жа царквы Тымінскім складзена пагадненне аб утрыманні апошняга. Святар Гінтаўт абяцаў *"давать одежду и пропитание а также обыкновенный дьячковый от прихода доход, которого может иметь до 12 руб. серебром, на что дьячок Тыминский согласился "*. У перапісцы дабрачыннага С. Брэна ёсць інфармацыя з Літоўскай Кансісторыі ад Ковенскага дабрачыннага Фурасевіча *"о побеге ... в Австрийскую Галицыю священника Тупайской церкви Иоанна Балинского"*.





# Грэка-каталіцкая (уніяцкая) царква ў Лідзе і Лідскім павеце

Шмат вернікаў пераходзіла ў рыма - каталіцкую царкву. 14 лістапада 1839 г. С. Брэн звярнуўся да Гарадзенскага губернатара з пытаннем аб тым, што рабіць з такімі вернікамі. Яму было паведамлена, што да асобага распараджэння *"Его Высокопреосвященства Архиепископа Литовского Иосифа"* дана каманда ўсім земскім судам і гарадской паліцыі не праводзіць фармальнага следства, а дзейнічаць разам з праваслаўным духавенствам *"благоразумными мерами посредством приличного внушения и тому подобное"*. Рыма - каталіцкаму духавенству *"...строжайше предписывалось ... бывшее греко-униатское духовенство и народ Литовский не называть греко-униатским, но православным ... "* 24 студзеня 1840 г. губернскае праўленне даручала *"...лидскому городничему ... для возвращения учителя лидского городского училища Нестора Осовского из латинства в природное православие, поступил сообразно циркулярному предписанию ... следствие прекратил ... а действовал приличным внушением и тому подобное"*. Ужо ў сакавіку 1840 г. Літоўская Кансісторыя слухала даклад гарадзенскага губернскага праўлення аб настаўніку лідскай гарадской навучальні Асоўскім. Настаўнік у паперы, пададзенай лідскаму паліцмайстру Стучыну, пісаў, што *"... он исповедует природный православный обряд и в Римское исповедание не переходил ..."*. 20 кастрычніка 1839 г. у Літоўскай Кансісторыі слухалі паведамленне 2-га аддзела гарадзенскага губернскага праўлення: *"По донесению Лидского земского суда ... за №3708 с препровождением рапорта настоятеля Бобровской церкви Сцепуры, ... крестьянин из деревни Ходюки Адам Милька, перешедший ... в латинский обряд в православное исповедание возвращён"*, а 10 красавіка 1840 г. аб тым што, *"крестьянин имения Косовщина Адамовичевский Иван ... в православное исповедание возврощён"*. 28 чэрвеня 1840 г. архіепіскап І. Сямашка *"предложил Консистории ... истребовать дополнительные сведения от благочинных ... именные списки, по годам и по приходам, о ... людях бывшего греко-униатского исповедания как совращены были в прежние времена а Римский обряд, ... согласно предложения данного Его высокопреосвященством от 8 ноября 1836 г. за №951 возвратить к природному Греко-восточному исповеданию, с наименование каждого лица, места рождения, времени совращения, а также возвращения к своей вере"*. Аб жонках святароў Лідскага дабрачыння: *"... 30 апреля (1840 г. - заўв. аўт.) Кансистория слушала ... С. Бренна ... он благочинный более двух лет старался благоразумными методами склонить жену настоятеля Гончарской церкви Терезы из Колендов Костецкую с дочерью Юлией к возвращению в природное православное исповедание, но ... Костецкая столь упряма, что никак римского обряда оставить не может. В доказательство же рапортующего о сем ... представляет он подлинное ... отношение Слуцкого благочинного Наркевича от 3 декабря 1837 г., что упомянутая Костецкая должна исповедать православную веру, ибо бабка ея - жена православного (пэўна - уніяцкага - заўв. аўт.) священника Ярошевича состояла в том же обряде, и мать тоже, а также донесение мужа ея, священника Костецкого от 12 ... апреля о том что Костецкая не принимает ... его увещевание; и второй от 7-го декабря о том , что жена лидского священника Волчковича с дочерью и Докудо-ской церкви священника Сцепуры жена с четырьмя дочерьми по ныне состоят в Римском исповедании. Приказываю: 1-е, предписать рапортующему дабы доставил метрические выписки о рождении и крещении жен священников: лидской церкви Волчковича, докудовской Сцепуры, Гончарской Костецкой ... для дальнейшего по сему рассмотрения, 2-е, как жены священнические, для хорошего образования и, следовательно для будущего благополучия своих детей должны исповедать веру своих матерей, тем паче, что они вероисповеданию родителей своих подлежат, то просит Г. Виленского Епархиального Епископа Климовича (рыма-каталіцкага - заўв. аўт.) учинить распоряжение, дабы прописаным женам православных священников и их дочерем под никаким видом духовные требы Римско - Католическим священникам не преподовать ... "*.



Вёска Бабры, Крыжаўзвіжанская царква. Пабудавана ў 1810г з дрэва.

Вёска Ганчары, Пакроўская царква 1774 г.

А вось С. Брену паведамляюць аб справах у мястэчку Свіслач з-пад Гарадні: *"... Консистория слушала предложения Его преосвященства г. Литовского и Виленского Архиепископа и кавалера Иосифа Семашко от 5 июня за №830 о ... том, что Его Высокопреосвященство отнёсся куда следует, на счёт письмоводителя Свислочской гимназии Феликса Ячиновского ... и изволил предложить Консистории .... уволенных из свислочской гимназии сыновей Ромуальда и Станислава Ячиновских востребовать хотя бы через полицию в Жировичы и утвердить в православной вере. ... как о поступлении в свислочскую гимназию и совращении в латинство ... Ячиновских должно быть известно священнику Одринской церкви , при которой они записаны, то потребовать от ... священника и Благочинного объяснений ..."*. Аднак ня глездзячы на строгія меры, *"генерал 9-го округа (гарадзенскага - заўв. аўт.) внутренней стражи при инспектировании вверенного ему округа, удостоверился ... что бывшие греко - католики не знают о присоединении их к православию и называют себя по прежнему униатами ..."* .

Уся перапіска дабрачыннага С. Брэна напоўнена загадамі і справамі аб шлюбах паміж каталікамі і праваслаўнымі. Рыма - каталіцкае святарства інфармавалася што *"... браки русских, совершенные одними римско-католическими священниками не считаются действительными, пока не обвенчаны русскими священниками"*. А, напрыклад, 25 лістапада 1839 г. Літоўская Кансісторыя слухала даклад С. Брэна, аб тым, што *"... священник Собакинской церкви Бедрицкий рапортом от 23 ноября донёс ему, благочинному, что две женщины ...католички... Тереза Михальковичова, девица ... , и ... Анна Лукашевичева, вдова ..., приняли православие и обвенчались Бедрицким, первая с Семёном Сидляцевичем ... вторая с Иваном Омелевичем ... . Консистория приказывает: ...Бренну взять от этих женщин расписки, что они будут исповедать православную веру и детей своих обоего пола в нем же воспитывать... "*.



Апостальскі візітатар для беларусаў грэка-каталікоў архімандрыд а. Сяргей Гаек .Ліпень 1999 г.

15 студзеня 1840 г. было паведамлена: *"При браке между православными и иноверцами всякий раз испрашивать архирейского разрешения"*.

30 студзеня 1840 г. Кансісторыя слухала даклад С. Брэна аб тым, што парафіянін Жалудокскага касцёла Якаў Смяцюх жадае ажаніцца з дзяўчынай Францішкаю Дарашэўнай, прыхаджанкай Дзікушскай праваслаўнай царквы, *"он не будет склонять своей супруги к принятию Римской веры (дал расписку) и детей своих обоего пола будет воспитывать в догматах православного исповедания"*. Тое ж самае ў дакуменце ад 16 снежня 1840 г. аб шарагоўцы Берасцейкага пяхотнага палка, парафіяніне Няцечскага касцёла і яго шлюбе з дзяўчынай Аленай Грынявіцкай, прыхаджанкай Голдаўскай царквы.

У 1840 г. было забаронена прамаўляць казанні па-беларуску, і япіскапы пачалі вымагаць ад духавенства, каб нават у прыватным жыцці карысталіся толькі расейскай мовай. Менскі япіскап Галубовіч дакараў сваіх святароў і асабліва іх жонак за тое, што гавораць мовою народу, і налягаў, каб хутчэй навучаліся расейскай мовы, і далі ў гэтым "прыклад сваім парафіянам".




Лідскія ўніяты на сустрэчы з Янам Паўлам ІІ.

Да нашых часоў захаваліся і дзейнічаюць, як праваслаўныя чатыры цэрквы Лідскага павету, якія будаваліся і існавалі як уніяцкія, гэта: Голдаўская царква (1795 г.), Баброўская (1810 г.), Ганчарская (1774 г.). Чацвёрая - былая ўніяцкая царква - знакамітая Беларуская гатычная царква абарончага тыпу ў в. Мураванка (Маламажэйкаўская, 1524 г.).

Пасля 1839 г. пры кожным аслабленні расейскай улады адраджалася ўнія. Так, у 1932 г. ў Заходняй Беларусі дзейнічалі 32 грэка-каталіцкія прыходы. Яны з'яўляліся носьбітамі беларускай самасвядомасці. Пры іх існавалі драмгурткі, школкі, выдаваліся на беларускай мове часопісы. Ёсць звесткі аб тым, што ў 20 гг. уніяцкая парафія аднавілася ў Мураванскай царкве, пробашч-Іосіф Міхневіч(1874-1930 гг.). Напэўна з гэтым звязана нутраная перабудова царквы ў 20 гадах.

На пачатак 1996 г. у краіне налічвалася 15 уніяцкіх парафій. У 1994 годзе ў Лідзе была адроджана грэка-каталіцкая парафія Св. Язафата. Нягледзячы на шматлікія ўнутраныя і знешнія праблемы, парафія жыве і паступова пашыраецца. Першы пробашч парафіі - а. Казімір Ляховіч. Зараз пробашчам парафіі з'яўляецца святар а. Андрэй Абламейка. Апостальскі візітатар для беларусаў грэка-католікоў - архімандрыд а. Сяргей Гаек. Вось ужо шмат гадоў, кожны лістапад лідская парафія святкуе сваё парафіяльнае свята - Дзень Св. Язафата Кунцэвіча.

***Лявон Лаўрэш, Уладзімір Круцікаў.***



№ 44 (631) 26 ЛІСТАПАДА 2003 г. Наша слова

# НАВІНКІ БЕЛАРУСКАЙ ФІЛАТЭЛІІ

У гэтым годзе Міністэрства сувязі Беларусі выпусціла шмат прыгожых канвертаў з малюнкамі і маляванымі маркамі, прысвечаных нашай гісторыі.

Нядаўна ў серыі "Гарады Беларусі" вайшлі два цікавыя канверты. На адным з іх, прысвечаным Полацку, размешчаны старадаўні герб горада і дзве выявы гістарычнага цэнтра горада: Полацк у сярэдзіне XIX ст і сучасны яго выгляд. Другі канверт мае выяву герба Пінска, здымак касцёла і калегіюма XVII ст. 30-х гадоў мінулага стагоддзя і сучасны выгляд гістарычнага цэнтра. Полацкі канверт аформіў мастак В. Сташчанюк, а пінскі – В. Маркавец.

Мастак А. Бушка па мастацку аформіў канверт прысвечаны 450-годдзю заснавання першай друкарні (1553 г.) у Беларусі.

Пэндзлю Міколы Купавы належыць канверт з маляванай маркай, выпушчаны ў гонар нашага земляка, удзельніка вызвалення Балгарыі ад турэцкага прыгнёту ў XIX ст. генерал – фельдмаршала І. Рамейкі – Гуркі (1828-1901). На марцы мы бачым выяву славутага ваяра на фоне магілёўскай ратушы.

Фабрыка Дзяржзнака, што ў Барысаве, выпусціла канверт з маляванай маркай у гонар дзесятых угодкаў нацыянальнага беларускага свята – Дня беларускага пісьменства і друку ў Полацку. На малюнку мы бачым Францішка Скарыну на фоне Полацкай Сафіі. Марку і малюнак на канверце выканаў мастак Дзмітры Сікорскі.

*Алег Трусаў,*
*кандыдат гістарычных навук.*




# 130 гадоў беларускай чыгунцы

## *аверс*

*Сёлета споўнілася 130 гадоў Беларускай чыгунцы. З гэтай нагоды па Беларусі прайшло шмат святочных мерапрыемстваў. У Лідзе, у прыватнасці ўстаноўлены вялікі **беларускамоўны** манумент. І разам з тым сёлета ж былі ўведзены рускамоўныя абвесткі ў электрычках. Наогул праблема беларускай мовы на беларускай чыгунцы стаіць надзвычай востра і набывае самыя невясёлыя праяўленні. Таварыства беларускай мовы пастаянна звяртае ўвагу на моўнае афармленне Беларускай чыгункі, даказваючы, што чыгунка гэта твар краіны. Якім бачыцца гэты твар з-за мяжы, чытайце ў допісе нашага сябра Петруся Капчыка з Украіны.*



**Беларускамоўны помнік да 130-годдзя Беларускай чыгункі ў Лідзе**

## *і рэверс*

Сёння вяртаўся са сталіцы Галіччыны ды ўсяе Заходняе Украіны да сябе ў Ізяслаў. Да Здалбунава, што у Роўненскай вобласці, дзе раблю перасадку на прыгарадную электрычку на Шапятоўку, купіў квіток на міжнародны цягнік "Львоў-Мінск", таму што на іншыя цягнікі ўсе квіткі былі прададзены, бо яны таннейшыя ўдвая! Нашу сяброўскую гутарку з маім львоўскім сябруком перарвала аб'ява пра пачатак пасадкі ў цягнік "Львоў-Мінск", і мы павольна рушылі ў падземны пераход на перон, дзе знаходзіўся патрэбны мне цягнік. Квіток у мяне быў у вагон № 3, таму мы вачыма пачалі шукаць гэты самы вагон. Мой сябар Багдан раптам спахмурнеў, у яго адразу ж сапсаваўся настрой ад пабачанага... ў ваконцы, дзе "фанабэрылася" таблічка, на якой было чорным па беларму напісана **"Минск - Львов"**. Ён мяне спытаў: "Пятрусь, чи то мени сниться, га? Що я бачу?!" Я добра зразумеў свайго патрыятычна налаштованага сябра: ён быў агаломшаны непавагаю беларусаў да сваёй роднай мовы! Ад сораму я быў гатовы праваліцца скрозь зямлю, шаноўныя вы мае землякі-чыгуначнікі Беларусі, мне і ў галаву не магла прыйсці такая "навінка сезону", як замена беларускамоўных таблічак на вагонах цягнікоў на расейскамоўныя! Навошта гэта патрэбна было рабіць, прынамсі, у дачыненні да цягнікоў, якія выбываюць са сталіцы Беларусі ў Заходнюю Украіну, дзе вельмі любяць і паважаюць мову беларускую, а мова расейская тут нават не вывучаецца ўжо ў школах украінскіх як вучэбны прадмет! Ну, адвыклі за 13 гадоў незалежнасці ад рускай мовы ў Заходняй Украіне: расійскіх тэлевізійных каналаў, як у Беларусі, тут не рэтранслююць, мова руская не вывучаецца, то навошта яна здалася галічанам, не?

... Я адчуваў сябе віна-ватым перад Багданам, быццам бы гэта я даў "указ" аб замене беларускамоўных таблічак на расейскамоўныя, і не мог дачакацца, калі цягнік, нарэшце, адыдзе ад львоўскага вакзала... Канешне, Багдан напіша мне ліст, дзе выдасць" мне "порцыю" папрокаў у адсутнасці ў беларусаў гонару і годнасці, аб непавазе да сваёй роднай мовы і г. д., і г. д. чуць гэта мне даводзіцца і ў сваім Ізяславе амаль штодня ў школе, дзе працую, таму я ўжо навучыўся хваравіта не рэагаваць на цалкам справядлівую з боку ўкраінцаў крытыку за нашу здраду ў першую чаргу сваёй роднай мове... Справядлівыя папрокі, таму што я час ад часу бываю ў Беларусі і на ўласныя вочы і вушы бачу і чую, як у краіне дабіваюць невылечна хворую мову, дадзеную нам ад нараджэння Богам...

... Калі цягнік быў у дарозе ўжо хвілін з 40 і я пакрысе адышоў ад шокавага стану, пацікавіўся ў праваднiцы, якая на украінска-беларускамоўныя запытанні пасажыраў адказвала з "вар'яцкай" упартасцю на расейскай мове з беларускім акцэнтам, ці валодае яна беларускаю моваю, дзяржаўнаю моваю краіны? Вы, шаноўнае спадарства, не паверыце, што яна мне адказала!!! "Я размаўляю той мовай, якой размаўляе наш прэзідэнт. Загадае ён размаўляць на мове бэнээфаўскай, буду размаўляць. А зараз не дурыце мне галавы сваімі мовамі, Вы што, па-руску не разумееце?! "Вось дзе, аказваецца, "сабака закапаны"!!! Вось чаму з 254 менскіх школ толькі 12 беларускамоўных, гэта значыцца "бэнээфаўскіх"!.. я ж не дурны чалавек, маю дзве вышэйшыя асветы, каб паверыць у лухту, якая прагучала з вуснаў гэтай маладукаванай, з вёскі, праваднiцы, пазбаўленай пачуцця ўласнае годнасці, не кажу ўжо пра гонар называцца беларускаю! Але ж і дыму без агню не бывае! Чаму яна так смела і адкрыта, на увесь вагон, заяўляе аб сваім праве зневажаць беларускую мову, называючы яе "бэнээфаўскаю", ці не таму, што мае прыклады ў эшалонах вышэйшай улады ў Беларусі!?

... Нарэшце цягнік прыбыў на станцыю Здалбунаў, я падзякаваў праваднiцы за "прыемную размову", і не азіраючыся на перон, дзе стаяў мой "родны" цягнік на Менск, шпарка пакрочыў на перон, дзе ўжо ішла пасадка на электрычку на Шапятоўку. Да самае Шапятоўкі і пасля, у дызель-цягніку на Ізяслаў, у маёй душы кіпела ўсё: сорам, горыч, роспач, крыўда, чаму мы такія, беларусы? Здаецца, з "вопраткаю" у нас усё ў парадку, а вось з "розумам" нешта адбываецца, і не ў лепшы бок!..

... І ў канцы свайго допісу ўсё ж хачу звярнуцца з асабістаю просьбаю да чынавенства Беларускай чыгункі. Калі ласка, вярніце на месца беларускамоўныя таблічкі ў цягніках, якія накіроўваюцца за межы Беларусі. Хаця гэта, магчыма, для вас і "дробязь", але для нас, беларускай дыяспары, гэта ўжо абраза, непавага да нашай роднай беларускай мовы, якую мы тут, у замежжы, любім і беражом ад знікнення! Другое, укажыце вашым праваднікам пасажырскіх цягнікоў, і асабліва цягнікоў, якія накіроўваюцца з Менска ў Заходнюю Украіну, на пытанні пасажыраў на беларускай ці ўкраінскай адказваць ім па-беларуску, г.зн., у брыгаду цягніка, у прыватнасці, якая абслугоўвае маршрут "Менск-Львоў", прызначце людзей, якія валодаюць добра не толькі рускай, але і беларускай мовамі!!!

Забараніце ім абразлівыя выказванні ў бок сваёй дзяржавы, прэзідэнта, беларускай мовы бо гэта не надае аўтарытэту ні краіне, ні Беларускай чыгунцы, якая гэту краіну прадстаўляе за межамі Беларусі. Дасучыце ў прыгарадных электрычках рабіць абвесткі прыпынкаў гэтаксама па-беларуску, як гэта прыемна чуць у вагонах менскага метро! Сёння ж там у электрычках чуюцца толькі рускамоўныя абвесткі: чуў гэта ў верасні ў электрычцы "Менск-Асіповічы", калі ехаў у госці да сваёй роднай сястры... і далей – рэклама. Прыгожы Менскі вакзал, мабыць, не горш ад Кіеўскага, але што гэта за "трасянка" з рэкламаю?! Яна павінна быць спрэс беларускамоўнаю, а ў вас што?! Расклады руху цягнікоў толькі па-руску! Чаму?! Трэба прытрымлівацца той мовы, на якой аформлены новы вакзал, а ён аформлены па-беларуску, вось і ўсё іншае павінна афармляцца па-беларуску: назвы гандлёвых кропак у ім, цырульняў, кавярняў, расклады руху цягнікоў, абвесткі аб прыбыцці і адпраўленні цягнікоў на светлавых табло ў вакзале, у падземных пераходах і г.д. Спадзяюся, што ва ўправе Беларускай чыгункі ёсць кіраўнікі, якія яшчэ памятаюць, што Менск – сталіца незалежнай краіны, якая называецца Беларусь, і мова роднай гэтай краіны – **беларуская** !

*Пятрусь Капчык, філолаг, сябар Вялікай Рады Згуртавання Беларусаў свету "Бацькаўшчына", г. Ізяслаў Украіна.*





# ТЭХНАЛОГІІ — 15 ГОД

12 лістапада а 16 гадзіне ў памяшканні Выставачна-інфармацыйнага цэнтра Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа адбылося адкрыццё юбілейнай выставы кніг слыннага беларускага выдавецтва "Тэхналогія". Навукова-вытворчаму прадпрыемству "Тэхналогія" споўнілася 15 год.

Выдавецтва — адно з нямногіх камерцыйных прадпрыемстваў нашай краіны, якія рэяльна дбаюць аб развіцці роднай культуры і навукі. Сведчаннем гэтага — прадукцыя выдавецтва. На выставе, у прыватнасці, былі прадстаўлены кнігі **"Старажытныя Ліцьвіны"** П. Урбана, **"Мастацтва беларускіх старадрукаў"**, **"Aurea mediocritas"** І. Саверчанкі, **"Cantibus organis"** У. Неўдаха і іншыя. Вялікую колькасць кнігаў выдавецтва перадае ў бібліятэку ТБМ. Сярод іх:

**Матэматычная энцыклапедыя** (2001)

**Савік Л. Пакліканыя:** Літаратура беларускага замежжа (2001).

**Наша Ніва:** Факсімільнае выд. Вып. 3. 1910 г. (1999).

**Скарабагатаў В.В. Зайгралі спадчынныя куранты:** Цыкл нарысаў з гісторыі прафесійнай музычнай культуры Беларусі (1998).

**Бэрдшоў Дж. Эканоміка.** Ч.1. Уводзіны. Мікраэканоміка (1996)

**Дэні А. Гісторыя эканамічнай думкі:** Дапам. для студэнтаў (1996)

**Горвард М. Сучасная культурная антрапалогія** (1995)

**Александров С.Э., Фадеев П.Э. Рейтинг-анализ:** Учеб. пособие (1994)

**Залоска Ю. Версіі:** Шлях да храма; Idea sui: Дзённік. Дыялогі. Эсэ (1994)

**Picarda Guy. Minsk:** A Historical Guide and Short Administrative, Professional and Commercial Directory (1994)

Акрамя кнігаў, "Тэхналогія" выпускае сувеніры, прадстаўнічую літаратуру, буклеты, бланкі і г. д.

У першы дзень выставы адбылася прэзентацыя першага тому **"Слоўніка мовы "Нашай Нівы"**, падрыхтаванага Інстытутам мовазнаўства Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь і выдадзенага "Тэхналогіяй". На прэзентацыі прысутнічала спецыяльна запрошаная старшыня Менскай гарадской арганізацыі ТБМ, адна са стваральнікаў слоўніка, Алена Мікалаеўна Анісім.

На імпрэзе прамовіў прадстаўнік Выканаўчага камітэту СНД І. Катлабай, які адзначыў высокую якасць выданняў "Тэхналогіі". Прадстаўнік Інстытуту Гётэ падараваў выдавецтву кнігу аб Германіі. Выступіла таксама і ганаровы дырэктар Інстытуту генэтыкі і цыталогіі Акадэміі навук, акадэмік Хатылёва. Фундаментальная праца гэтай установы была прэзентавана на другі дзень выставы — 13 лістапада.

*Наш карэспандэнт.*

# Прэзентацыя літаратурна-мастацкага часопіса "Ад лідскіх муроў"






21 лістапада ў Лідскім педагагічным каледжы прайшла прэзентацыя чарговага нумара літаратурна-мастацкага часопіса "Ад лідскіх муроў".

У гэтым нумары прадстаўлена не шмат аўтараў: Ірына Багдановіч (вершы з кнігі "Сармацкі альбом"), Міхась Мельнік (апавяданне-быль "Радасць"), Ян Чачот (15 баладаў з цыклу "Спевы пра даўніх ліцьвінаў" у перакладзе Станіслава Судніка), Ганна Камінская (вершы), Вераніка Мікулка (легенда), Алесь Нічыпар (гістарычная аповесць "Паўночная песня"), Дзінара Мазітава і Ўладзімір Васько (песня "Раніца").

З аўтараў на прэзентацыі прысутнічалі Міхась Мельнік і Станіслаў Суднік - намеснік старшыні і старшыня Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны, а тасама мама Дзінары Мазітавай, сама Дзінара вучыцца зараз у кансерваторыі ў Санкт-Пецярбургу.

Навучэнцы каледжа добра падрыхтаваліся да імпрэзы. Большасць з іх прачытала часопіс і, нават, развучылі песню "Раніца". Асабліва пранікнёна гучалі вершы Ірыны Багдановіч у выкананні Тані Унгур:

*"Камусьці ў хаце сядзець сціішма*
*І сніць савецкую панічыну,*
*А мы ідзём "па сваё імя",*
*На Высокі Сход па Бацькаўшчыну..."*

І гледзячы на моладзь у зале хацелася верыць, што ўсе яны прыйшлі сюды і па сваё імя, і па Бацькаўшчыну.

*Яраслаў Грынкевіч.*

**На здымках:** пад час прэзентацыі часопіса, вершы Ірыны Багдановіч чытае Таня Унгур.

# У МЕНСКУ АДКРЫЛАСЯ ВЫСТАВА, ПРЫСВЕЧАНАЯ 480-ГОДДЗЮ ВЫДАННЯ ПАЭМЫ МІКОЛЫ ГУСОЎСКАГА "ПЕСНЯ ПРА ЗУБРА"

Вечарам 19 лістапада ў Менску, у Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры адкрылася выстава "Мікола Гусоўскі. Голас XVI стагоддзя". Яна прысвечана 480-годдзю першага выдання ў Кракаве паэмы выдатнага паэта-лацініста Міколы Гусоўскага "Песня пра зубра".

У экспазіцыі прадстаўлены вытрымкі з паэмы, старадаўнія карты і гравюры, рыцарскія латы і ўзбраенне, гісторыя стварэння і выдання "Песні пра зубра", муляж яе першага выдання 1523 года, арыгінал якога захоўваецца ў Бібліятэцы імя Чартарыйскіх у Кракаве, беларускія пераклады паэмы Якава Парэцкага, Язэпа Семяжона, Наталлі Арсенневай, Уладзіміра Шатона, літаратуразнаўчыя і крытычныя працы айчынных і замежных даследчыкаў, творы мастацкай літаратуры і драматургіі, створаныя па матывах паэмы, а таксама працы беларускіх мастакоў Арлена Кашкурэвіча, Пятра Драчова і Яўгена Куліка.

Як зазначыў даследчык творчасці М. Гусоўскага Вячаслаў Чамярыцкі, калі творчасць беларускага першадрукара Францішка Скарыны паклала пачатак эпохі Адраджэння ў галіне духоўнай літаратуры, то геніяльны твор Міколы Гусоўскага адлюстраваў грамадзянскае жыццё Вялікага княства Літоўскага, стаў своеасаблівым гімнам яго прыродзе, гісторыі і народу. "На прапанову папы рымскага Льва X паэт так апісаў свой край, што хочацца зноў і зноў перачытваць гэты праўдзівы, глыбокі і шчыры твор, які робіць гонар Беларусі. Паэма, якая ўвайшла ў хрэстаматыі і падручнікі, перакладзеная з лацінскай на беларускую, рускую, украінскую і літоўскую мовы, стала агульнаславянскім помнікам культуры", — сказаў вучоны.

На думку вядомага беларускага вучонага-энцыклапедыста Адама Мальдзіса, паэма "Песня пра зубра" паклала пачатак шматмоўнай беларускай літаратуры. "Дзякуючы творчасці Скарыны і Міколы Гусоўскага, а таксама выданню Статутаў ВКЛ наша краіна трывала ўвайшла ў еўрапейскі кантэкст", - падкрэсліў вучоны.

Аўтарамі канцэпцыі выставы з'яўляюцца старшыя навуковыя супрацоўнікі музея Паліна Саўген і Ірына Лапцёнак.

У інтэрвію БелаПАН І. Лапцёнак паведаміла, што ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" рыхтуецца новае выданне паэмы, у якое будуць уключаны ўсе беларускія пераклады "Песні пра зубра". Ілюстрацыі для яго рыхтуе народны мастак Беларусі Арлен Кашкурэвіч.

На адкрыцці выставы, падрыхтаванай музеем сумесна з Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі, выступіў ансамбль "Класік-авангард" Беларускай дзяржаўнай філармоніі пад кіраўніцтвам Уладзіміра Байдава. Музыканты выканалі творы са зборнікаў старадаўняй беларускай музыкі "Полацкі сшытак" і "Віленскі сшытак", а таксама танцавальныя сюіты Войцэха Длугарая.

*Марат Гаравы, БелаПАН.*

# Развіццё мясцовых супольнасцяў на Гарадзеншчыне



22-23 лістапада ў Горадні прайшла выніковая канферэнцыя ў межах праекту "Развіццё мясцовых супольнасцяў на Гарадзеншчыне", арганізаваная грамадскім аб'яднаннем "Цэнтр інфармацыйнай падтрымкі грамадскіх ініцыятыў "Трэці сектар". У канферэнцці бралі ўдзел прадстаўнікі грамдскіх арганізацый з Горадні, Ліды, Слоніма, Зэльвы, Смаргоні, Мастоў, а таксама некалькіх польскіх гарадоў. ТБМ было прадстаўлена толькі лідскімі арганізацыямі.

На канферэнцыі былі падсумаваны вынікі дзейнасці грамадскіх арганізацый у летне-асенні перыяд 2003 года і прапрацаваны магчымыя стратэгіі развіцця мясцовых супольнасцяў на Гарадзеншчыне.

Адбылася прэзентацыя праекту "Партнёрства праз дыялог: развіццё грамадзянскага ўдзелу і сацыяльнага партнёрства ў мясцовых супольнасцях".

*Наш кар.*

# Збор подпісаў за рэстаўрацыю Лідскага замка



**Шаноўныя сябры!**

За першы тыдзень збору подпісаў за заканчэнне рэстаўрацыі Лідскага замка ў Лідзе і ваколіцах сабрана і накіравана на адрас Міністэрства эканомікі больш 200 подпісаў.

Для паскрэння працэсу даводзім да ўсіх зацікаўленых адрас Міністэрства эканомікі, куды можна адпраўляць подпісы непасрэдна:

**220030, Мінск, вул. Берсана, 14. Міністэрства эканомікі.**

**Адказы на крыжаванку са ст. 12.**

**Па гарызанталях:** 1.Рушэнец. 5.Ува. 6.Ява. 8.Лаз. 9.Лад. 10.Бот. 12.Джала. 13.Абрус. 14.Хіб. 15.Коў. 16.Дах. 17.Жніво. 19. Троха. 21.Сек. 22.Шыхт. 24.Імжа. 26.Лыч. 27.Пан. 28.Бастр. 31.Асадка. 32.Аранжа. 33.Дор.

**Па вертыкалях:** 1.Рашатні. 2.Шалахвост. 3.Недабіткі. 4.Цямрэча. 5.Уздоўж. 7.Абсада. 8.Луска. 11.Троху. 18.Нашчадак. 20.Хлапчаня. 23.Хіб. 25.Мур. 29.Апад. 30.Твар.

# УСПАМІНЫ МІХАІЛА ШВЭДЗЮКА

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Нажаль, некаторыя беларусы, каб выехаць да Ірана, падаваліся што яны палякі, каталікі. Мала гэтага, некаторыя нават мянялі свае чыста праваслаўныя імёны на польска-каталіцкія. Ведаючы цяжкае і галоднае жыццё ў Узбекістане ў той час, трэба гэтых людзей (беларусаў) зразумець. Не нам, рэтраспектыўна, судзіць шлях гэтых людзей да паратунку.

У імя справядлівасці і аб'ектыўнасці трэба тут успомніць што пасля выезду з СССР, палякі агалашалі ў вайсковых загадах, каб тыя людзі, якія выехалі з фальшывымі прозвішчамі, імёнамі, нацыянальнасцю, веравызнанем і д. п., гэта выпраўлялі. За гэта не было ніякай кары. Многа беларусаў скарыстала з такіх загадаў і папраўліла свой асабісты стан (эвідэнцыю). Але, нажаль, не ўсе.

На станцыі Арысь мы затрымаліся даўжэйшы час. Быў сфармаваны доўгі цягнік з нашымі людзьмі. Паехалі на ўсход да горада Чымкента а потым Джамбула. З Джамбула павезлі нас назад, аж аднаго вечара мы затрымаліся на станцыі Чок-Пак. На станцыі Чок-Пак поўна польскіх жаўнераў. Войскоўцы пачалі ладавацца да сваіх вагонаў. Прычапілі і наш цягнік да вайсковых вагонаў. Мы тут дазналіся, што паедзем да Каспійскага мора, а потым да Ірана.

І, запраўды, цягнік хутка пацягнуўся на ўсход. Цераз Ташкент, Самарканд, Бухару, Мары, Ашхабад мы даехалі да порта Красна-водска на Каспійскім моры. Апусцілі вагон, які быў нашым "дарожным" домам цераз тры доўгія месяцы. У порце натоўп. Многа людзей. Мы паказалі нашыя "удостоверения" і заладаваліся на параход пад назвай "Москва".

Ужо на параходзе розныя, часам дыяметральна спрэчныя думкі прыходзілі да нашых перамучаных галоў. Не плакалі, а цешыліся, што мы пакінулі "турму народаў" - Савецкі Саюз. Але ж нашыя думкі – сны не збываліся. Мы не вярталіся на Бацькаўшчыну. Мы ад'язджалі далей і далей ад Бацькаўшчыны да чужых краёў з чужымі звычаямі, мовамі, рэлігіяй. Але гэта не быў наш выбар: такі быў наш лёс...

На параходзе многа людзей, вайскоўцаў і цывільных. Чуваць розныя мовы, беларуская, польская, руская і ўкраінская. Аб спанні не было мовы. Усе сядзелі і чакалі на адплыў. Параход даў гудок і паплыў у бок Ірана. Гэта быў канец сакавіка 1942 г.

Падчас дарогі, на моры, раптам паўстала вялікая бура. Параход калыхаўся то ўлева, то ўправа. Людзі пачалі хварэць на "марскую хваробу". Параход спынілі і чакалі пакуль супакояцца ўзбураныя хвалі мора. Супакоілася. Паплылі далей.

Трэба тут успомніць адзін інцыдэнт, які здарыўся на параходзе. Людзі з нашага вагона г. зн. сем'і Швэдзюк, Ражкавец, Краўчун і Хлус трымаліся разам, у адным купэ. Паміж сабою мы гутарылі на нашай палескай гаворцы. Раптам якійсь паляк, пачуўшы нашу гаворку (не польскую!), са злосцю крыкнуў па-польску: "Перастаньце гаварыць гэтай мовай..." Нашыя мужчыны кінуліся на яго. Паляк адышоў.

Такое штось здарылася ў нас першы раз у нашым жыцці, што хтось зрабіў нам заўвагу, чаму мы гаворым на сваёй роднай мове, а не на чужой, у канкрэтным выпадку, польскай мове.

Гэты інцыдэнт быў сігналам, чаго можна было спадзявацца ў прышласці. І запраўды, з рознымі злосна-саркастычнымі заўвагамі і кпінамі мы спатыкаліся і пазней.

На пачатку красавіка 1942 года мы даплылі да іранскага порта Пахлеві. Апусьцілі савецкі параход "Масква". Пакінулі СССР. Назаўсёды. Ніхто не плакаў, ніхто не галасіў.

І так закончыўся першы, драматычны эпізод у нашым жыцці, які пачаўся ў кашмарную, марозную суботу 10.ІІ.1940 г. , а скончыўся ў цёплым красавіку 1942 года ў Іране. На выгнанні мы былі два гады і сем тыдняў.

З Пахлеві нас перавязлі грузавікамі да Тэгерана. На пачатку трэба было жыць пад голым небам каля іранскага лагера для вайсковых пілотаў. Суадносіны паміж пілотамі і намі былі добрыя, хаця паміж намі не было супольнай мовы. Цераз некалькі дзён, 5.ІУ.1942 года быў Святы Вялікдзень, які мы правялі (цяжка назваць адсвяткавалі) ужо на свабодзе.

### ПАДЗЕІ Ў ТЭГЭРАНЕ

Мы часта хадзілі з лагера да самага Тэгерана. Ў Тэгеране крамы забітыя таварамі, прадуктамі да яды. Іранцы ў тым часе бралі і савецкія рублі, дык мы маглі купіць, што нам было патрэбнае. На базарах натоўпы і страшэнны шум.

Пачаліся перапісы. Рабілі іх ужо палякі. Клеркі, якія рабілі перапіс, пыталіся і запісвалі, між іншым, нацыянальнасць, мацярынскую мову, рэлігію, прафесію. Натуральна, запісвалі тако ж і агульнапатрэбныя дэталі, як прозвішча, імя, год і месца нараджэння і т. д.

Цераз прыблізна месяц, майго бацьку і брата Пятра забралі да польскай арміі. А ў ўступіў да "юнакаў". Асталіся разам бабка, маці і тры сястры.

Дзеля паўнаты, апішам далейшыя лёсы нашай сям'і.

### БАЦЬКА САВА

Як бацьку забіралі да арміі, яму было 48 гадоў. Дзеля гэтага яго размеркавалі да вартавых частак. З Тэгерана яго частку перавялі да поўначнага Ірака, каб сцерагчы ад сабатажу нафтавыя ўстановы, нафтавыя трубапроводы ў ваколіцах Кіркука і Мосуля.



Сава Швэдзюк у Палястыне. 26.03.1943 г.

У 1943 бацька пераязджае да Палястыны, якая тады была пад Брытанскім мандатам. Паколькі я тады жыў у Палястыне, дык мы спаткаліся. Бацька тады не ведаў, куды іх пашлюць далей, да якой дзяржавы.

На пачатку 1944 года яго частку пераводзяць да Егіпта. А з Егіпта пераводзяць да Італіі. Там, ў Італіі, другі польскі корпус пад камандаваннем генерала Уладзіслава Андэрса бярэ ўдзел у баях з Нямеччынай. Найцяжэйшым боем гэтага корпуса была мясцовасць Монтэ-Касіна (Monte Casino). Так як у другім польскім корпусе было многа беларусаў, многа з іх загінула пад Монтэ-Касіна.

У Італіі бацька быў два з паловай гады. Летам 1946 года, праз Францыю і Ла-Маншскі канал прыплыў да Англіі. Тут і здэмабілізаўся з арміі ў сакавіку 1949 года. Пачаў працу ў шпіталі аж да пенсіі.

Бацька памёр 12.04. 1980 г. і пахаваны на (Southetn Cemetary) (Паўдзённых Могілках) ў Манчэстары, Англіі.

### БРАТ ПЁТР

Брат Пётр нарадзіўся 15.XII.1925 года. Дык як яго забіралі да войска ў красавіку 1942 года, яму было ўсяго 16 гадоў і 4 месяцы. У Тэгеране ўсіх рэкрутаў часова параздзялялі да розных частак.



Пётр Швэдзюк у Вялікабрытаніі. 26.03.1943 г.

З Тэгерана павезлі іх цераз Іран, Ірак, Трансʼярданію да Палястыны. У Палястыне брат быў прызначаны на выезд да Англіі. Перавезлі іх да порта на Суэцкім канале.

З Егіпта па Суэцкім канале выплылі на Індыйскі акіян. Даплылі да Паўдзённай Афрыкі, дзе затрымаліся на некалькі дзён. З Паўдзённай Афрыкі паплылі акружной дарогай да Канады. А з Канады прыплылі нарэшце да Англіі. Так як большыня польскага войска размяшчалася ў Шкоцыі (Шатландыі), брат тако ж быў перамешчаны туды.

У Шкоцыі прыдзялілі яго да панцэрнай (танкавай) дывізіі. У гэтай дывізіі было многа беларусаў. Даўжэйшы час вывучвалі ваенную танкавую тэхніку. Усё гэта цягнулася доўга: ад канца 1942 года, цэлы 1943 год і палавіну 1944 года.

Пасля высадкі ў Францыі ў 1944 г. саюзных войскаў пад камандаваннем амерыканскага генерала І. Эзенхаўэра і кансалідацыі франтавой лініі, польская панцэрная дывізія была выслана на фронт. Хутка ўзялі ўдзел у цяжкіх баях з немцамі ў Нармандыі каля гарадка Фале (Falaise).

У гэтых баях браў удзел і мой брат Пётр. Быў цяжка ранены. Памёр 14.VIII.1944 года. Пахаваны ён на вайсковых могілках у Нармандыі, ў мясцовасці Granville Langennerie, каля Falaise, на участку 1, радку 4, магіле № 4.

### БАБКА, МАЦІ, СЁСТРЫ

Бабка, маці і сёстры не жылі доўга ў Тэгэране. На пачатку лета (1942) іх перевезлі да горада Ахвазу, які знаходзіцца не далёка ад Персідскай затокі. Там была страшэнная гарачыня. З Ахвазу перевезлі іх да Вялікага горада–порта Карачы, на Арабскім моры, ў цяперашнім Пакістане (тады ў Індыі). У Карачы заладавалі іх на карабель і паплылі да індыйскага порта Бамбей. З Бамбея цераз Індыйскі акеан да порта Танга ў Танзаніі (тады Танганіцы). З Танга павезлі да лагера, які знаходзіўся каля гара Arusha) ў Тананні, цяпер Танзанія. Лагер называўся Тэнгэру. Было ўжо лета 1942 г.

Тэнгэру ляжыць каля гары Мэру, і паблізкага возера Дулюці. З лагера Тэнгэру была відна гара Кіліманджара. Не ведалі тады яны, што давядзецца ім там жыць аж шэсць гадоў.

Сястра Зося пайшла да польскай пачатковай школы а потым да гімназіі. А маці і сёстры Ева і Тацяна працавалі на розных працах, пераважна ў агародах.

У лагеры Тэнгэру было многа беларусаў, праваслаўных.

У лагеры пасяліўся праваслаўны святар, айцец Міхаіл Бажар'янаў, родам з Вільні. Дзякуючы айцу Міхаілу, ў Тэнгэру вельмі хутка была пабудована прыгожая царква, ў якой рэгулярна адпраўляліся багаслужбы. Акрамя сваіх нармальных душпастырскіх паслуг, айцец Міхаіл выкладаваў тако ж закон Божы ў школах для праваслаўных вучняў.

*(Працяг у наст. нумары.)*





Шлях сям'і Швэдзюкоў па поўдні СССР



Міхаіл і Сава Швэдзюкі ў Палястыне. 1943 г.

Мікола Котаў

# НАРОДНЫЯ ГУЛЬНІ І ЗАБАВЫ

***Для любога ўзросту, танцавальныя, жартоўныя, рухомыя, седзячы, стоячы, масавыя і ціхія, для любой вечарыны, абрадавага свята, вяселля, юбілею, на свежым паветры: на вуліцы, плошчы, лузе, на вадзе і ў любых памяшканнях***

*(Заканч. Пачатак у папяр. нумарах.)*

### ХТО БОЛЬШ

На снезе ставяць дзве скрыні (можна кардонныя), вышынёй недзе ў метр, на адлегласці 7–10 м становяцца дзве каманды. У кожнага гульца па тры снежкі. Гульцы па чарзе закідваюць іх у скрыню. Якая каманда больш пацэліць, тая і перамагла.

### НІ ТУДЫ НІ СЮДЫ

Для гульні патрэбны двое санак (а летам могуць быць дзве калzáklad ці драбінкі).

Удзельнікі садзяцца кожны на свае санкі спіной адзін да аднаго і па камандзе штурхаюцца. Хто хутчэй даедзе да сваёй адметкі "фініш", той і перамог.

### ПЕРАСКОКІ

Гуляюць тыя, у каго ёсць шапка. Шапкі кладуць адну на адну, слупком. Гульцы пераскокваюць іх, стараючыся не зачапіць. Хто не пераскочыў ці разбурыў слупок, штрафуецца. Робіцца гэта так: усе гульцы становяцца адзін за другім, расставіўшы ногі, а той павінен пралезці паміж імі, і пры гэтым яго б'юць шапкамі.

### ЖАРТОЎНЫЯ ГУЛЬНІ

### ХТО КАГО ПЕРАПЯЕ
**(Вельмі вясёлая)**

Вядовец запрашае ахвотных аматараў спяваць, але спяваць незвычайна: усе разам пачынаюць кожны сваю песню (толькі каб не было аднолькавых). Той, хто збіўся, выбывае, і зноў пачынаюць спяваць спачатку. Звычайна застаецца адзін ці два чалавекі, якія і будуць лаўрэатамі гэтага жартоўнага фестывалю.

### АСЁЛ

Усе гульцы становяцца ў кола. Яны рухаюцца, хто як хоча, скачуць, робяць розныя смешныя штукі. Вядовец кідае мячык угору. Калі мячык упадзе на зямлю, кожны замірае ў той позе, у якой быў на момант падзення мяча. Як хто першы засмяецца, таму на паперцы пішуць літару "А". Зноў падкідаюць мячык. Хто першы атрымае ўсе літары са слова "асёл", той ідзе "пасвіцца на луг", а астатнія працягваюць гульню. Хто застанецца апошні, таму ўзнагарода.

### ЖАРТ-ГАДАННЕ

Гульня праводзіцца ў вузкім коле. Адзін з удзельнікаў кажа, што ён умее варажыць. Той, хто хоча даведацца па свой лёс, павінен пакласці люстэрка пасярод стала, сам стаць на стол і, гледзячы ў люстэрка, паўтараць за вядоўцам словы.

**Вядовец:** "Доля мая, доля..."

**Гулец** (паўтарае): "Доля мая, доля..."

**Вядовец:** "Лёс мой, лёс..."

**Гулец** (паўтарае): "Лёс мой, лёс..."

**Вядовец:** "Які чорт мяне сюды, на стол, занёс?.."

### АДШЧАПІ

Гэтая гульня-жарт праводзіцца як на вяселлі, так і на любой вечарыне.

Двум гульцам завязваюць вочы, у рукі даюць па шнурку прышчэпкі для бялізны. Па камандзе вядоўца яны на працягу некалькіх хвілін павінны чапляць адзін аднаму прышчэпкі — хто болей прычэпіць, той і перамог.

Можна гуляць наадварот: загадзя прычапіць прышчэпкі, а потым адшчапляць з завязанымі вачыма, навобмацак.

### ЛЯЛЬКІ
**(Вясельны жарт з дружкамі)**

Гуляюць на вяселлі, але можна і на любым свяце або вечарыне.

Даўней для гэтай гульні бралі доўгія вяроўкі ці ручнікі, а ў наш час лічыцца зручней некалькі рулонаў туалетнай паперы. Па камандзе трэба закруціць у яе гульца цалкам, з ног да галавы. Хто гэта зробіць хутчэй і прыгажэй, той і пераможца.

### НАПІСЯ — НЕ АБЛІСЯ

Для гэтай гульні патрэбна мець глечык, які ад верху амаль да сярэдзіны кругом у дзірачках. Умова: напіцца з гэтага глечыка і не абліцца.

*(Падказка: Трэба ўзяць чарацінку ці саломінку і піць праз яе.)*

### ДОБРЫ БОБ

Хто на адным дыханні скажа больш слоў:

Адзін кажа, добры боб,
Другі кажа, добры боб,
Трэці кажа, добры боб,
Чацвёрты кажа, добры боб,
Пяты кажа, добры боб,
Шосты кажа, добры боб,
Сёмы кажа, добры боб,
Восьмы кажа, добры боб,
Дзявяты кажа, добры боб,
Дзесяты кажа, добры боб...,
— і г.д.

### ЦІ ПАЦЭЛІЎ
**(Жарт на вяселлі)**

На нітку прывязваюць аловак і чапляюць нітку за папругу, каб аловак вісеў паміж ног, а на падлогу ставяць пляшку з-пад шампанскага ці іншую. Трэба, не дапамагаючы рукамі, пацэліць алоўкам у рыльца пляшкі.

Звычайна робяць гэта дружка маладога ці малады, а можа і сватам ці іншым гасцям захочацца.

### АДКУСІ АД ЯБЛЫКА

На нітачцы за хвосцік падвешваюць два яблыкі. Запрашаюць ахвотных адкусіць, не дакранаючыся рукамі, толькі ротам. Можна даць удзельнікам адну хвіліну — хто больш з'есць за гэты час, той і пераможца. Яму даюць прыз — рэшту ягонага яблыка. Суцяшальны прыз даюць і прайграўшаму — таксама рэшту яблыка.

# 28 лістапада - Піліпаўка

Сталае свята пачатку шасцітыднёвага (да 6 студзеня 2004 года) перадкаляднага посту. 28 лістапада на Запусты наладжвалася застолле, дзе пачыналі спяваць працяжныя піліпаўскія, як і самыя доўгія піліпаўскія вечары года, песні. Змест іх часцей за ўсе быў казачна-легендарны, баладна-павучальны або непасрэдна звязаны з асноўнымі заняткамі ў Піліпаўку - прадзівам і ткацтвам:

***Пойдзем, дзевачкі, у начлежачкі,***
***Возьмем, дзевачкі, паўтары мычачкі.***
***Напрадзем, дзевачкі, паўтары цэвачкі***
***Аснуем, дзевачкі, паўтары губачкі.***
***Пойдзем, дзевачкі, на сяло бёрды шукаць.***
***Усе сяло абыйшлі - бёрды не знайшлі,***
***Будзем, дзевачкі, у прасла кросны снаваць,***
***Будзем, дзевачкі, у тын кросны ткаць.***

У піліпаўскіх песнях многа апавяданняў пра нешчаслівы лёс, каханне, здраду, драматычныя сямейныя канфлікты, трагічныя баладныя сюжэты, але ёсць і жартоўныя карагоды, як ***"наўдаліца Рында ў Піліпаўку сядзела на печышчы, задрала ногі на гарадзішча"***, а калі прыйшлі сваты, ***"пайшла ў пазычкі па суседачках: "Дайце, суседачкі, мае матачкі, па сарочачцы, па наміткачы. - Не спаць было, Рында, піліпавай ночы, трэба было прадзіраць дзеркачом вочы."***

"У Піліпаўку дзень - паўдня" , таму ужо пасля абеду на доўгіх піліпаўскіх вячорках пачыналі расказваць чарадзейныя казкі, паданні пра гістарычных асоб і паходжанні назваў, застрашальныя былічкі аб сустрэчах з ведзьмамі, русалкамі, нябожчыкамі, ігралі ў хатнія доўгія гульні, падобныя сучасным фантам - ахвяраванням, якія трэба было незвычайным чынам выкупіць. Найлепш атмасферу піліпаўскіх вячорак перадаў Ян Баршчэўскі ў творы "Шляхціц Завальня". А вось апісанне абраду 1888 года Зінаіды Радчанкі: *"Дзяўчаты наймаюць сабе хату у якой-небудзь удавы або наогул у беднай сям'і і плацяць у складчыну: ільном па вазе, мераю канаплянага семя ці круп або бульбаю. Вячэраць прыносяць усё сваё, асвятленне таксама (цяпер усюды газавыя лямпы) ".*

Збіраюцца у адной хаце дзяўчат пятнаццаць, не больш. Усе прадуць і шчыра спяваюць. Прыходзяць і хлопцы паглядзець на дзяўчат, паслухаць іх спевы. Варта ўвагі тое, што на вячоркі трапляюць хлопцы з суседніх вёсак, а свае, таксама больш асць, ідуць у іншыя вёскі, часам і за дзесяць вёрст. Усе дзяўчаты начуюць на вячорках, а не дома, так і кажуць: "Мы ніколі не стыкаемся (не сядзім) дома".

Падлеткі сходзяцца асобна. Нават самыя малыя дзяўчаткі выбіраюць якуюнебудзь хату. Канешне бліжэй, дзе яны будуць прасці. Вячоркі называюцца яшчэ "попрадкі" . З надыходам вясны (13 сакавіка) яны спыняюцца, але сяброўкі ўсё-такі ідуць начаваць у свае "наначкі".

Не выпадкова, што самай усенароднай папулярнай і даўгавечнай на Беларускім тэлебачанні яшчэ нядаўна, да таго, як знішчылі яшчэ восем падобных, была дваццаціпяцігадовая фальклорная тэлепраграма "Запрашаем на вячоркі".

***Васіль Ліцьвінка.***

# Крыжаванка "Адновім мову"

## *Перакласці на беларускую мову*

*Склаў Ігар Паўлоўскі*



**Па гарызанталях:** 1.Ополченец. 5.Во (прыназ). 6. Явь. 8. Люк. 9.Порядок. 10.Сапог. 12.Жало. 13.Скатерть. 14. Плавник рыбы (спінны). 15. Металл. 16.Крыша. 17.Жатва. 19. Чуть. 21.Рубил (лес). 22.Строй (войсковы).24.Морось. 26.Рыло (жывёлы). 27. Барин. 28.Сахарный песок.(нізкае якасці). 31. Ручка (для ліставання). 32.Апельсин. 33.Драница.

**Па вертыкалях:** 1.Жалюзи. 2.Легкодумный человек. 3.Недобитые (назоўнік). 4.Темнота. 5.Вдоль.7.Обсадка (вакол чаго-небудзь). 8.Чешуя (рыб). 11. Немного. 18. Потомок. 20.Мальчишка. 23.Шерсть собаки (на хрыбце). 25. Каменное строение. 29.Упавшые плоды. 30.Лицо.

*(Адказы можна праверыць на ст. 9.)*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by
**http://tbm.org.by/ns/**



***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 24. 11. 2003 г. Замова № 2545.
Аб'ём 3 друкаваныя аркушы. Наклад 3000 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 1250 руб., 3 мес.- 3750руб.
***Кошт у розніцу:*** 240 руб. (у Менску - 250 руб.)